# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1966
Верасень-
Кастрычнік

Год XIV
№ 5 (98)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1966 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

Year XIV September-Oktober № 5 (98)
1966

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XIV | ВЕРАСЕНЬ — КАСТРЫЧНІК | № 5 (98)



*Друя ў 1932 г. Манастыр Айцоў Марыянаў.*
*Сядзяць (зь лева на права): М. Зданюкевіч (у Польшчы), Я. Дашута (памёр у Варшаве 10. IX. 1966), Андрэй Цікота (зьгінуў у Сібіру ў 1952 г.), Уладыка Мікалай Чарнэцкі (быў тады зь візытай у Друі), Я. Гэрмановіч, В. Хамёнак (у Варшаве), К. Смулька (памёр у 1965). У верхнім радзе стаяць (з права на лева): 3-ці — а. Фэлікс Журня (прыехаў у Лёндан) і 4-ы — Уладыка Ч. Сіповіч.*

# Рэха Сабору

4-ры Сэсіі Сабору адбываліся восеньню 1962-га, 63-га, 64-га і 65-га году. Зьбіралася больш 2 тысяч біскупаў. Але пры гэтым адбываліся, як кажуць, яшчэ тры іншыя «саборы»: зьбіралася значная група сілы памацнічай — экспэртаў, сакратароў, аўдытараў. Асабліва важную ролю гралі экспэрты: яны памагалі ў камісіях — шыкаваць праекты да дыскусіі і дакрэтаў. Таксама эксэрты і тэалёгі былі дарадчыкамі біскупаў і сакратарамі.

Сучасна працаваў «сабор» журналістаў з усяго сьвету, якія зьбіралі і рассылалі весткі ў ва ўсе закуткі сьвету.

Таксама можна назваць «саборам» абсэрватараў ад розных цэркваў і рэлігіяў (хрысьціянскіх — некаталіцкіх): гэтыя слухалі і заносілі весткі сваім аднаверцам.

Аднак — трэба прызнацца — ня толькі свае людзі, каталікі, былі супрацоўнікамі Сабору, але нават чужыя і няпрыхільныя, ці варожыя элемэнты (як атэісты), былі карыснымі для Сабору, — праз належную інфармацыю і нават праз крытыку.

*

Сабор быў прыгатаваны пасьпешна: гэта была віна і вялікая заслуга Папы Яна XXIII-га, які пасьпеў перад сьмерцю правесьці першую Сэсію. На Сабор унесена 70 справаўсхэмаў, аднак Айцы зьмяркавалі, што гэтак трэ будзе расьцягнуць работу на дзесяткі гадоў. А цяпер сьвет такі пасьпешны: тады пачаў Папа Ян і пасьля Павал VI звужываць працу — скарочваць тэмы — аж асталося іх 16! Але гэта былі схэмы самыя фундаман-

тальныя і яны ўсе на Саборы даліся разрашыць памысна. Папа Павал VI зара ўсё пацьвярдзіў і загадаў уводзіць у жыцьцё. Называюцца яны Канстытуціямі, або Дакрэтамі, або Дэклярацыямі.

Найбольшы лік экспэртаў і тэалёгаў дала Францыя і то самых «левых» — паступовых, якія ўносілі праекты вельмі сьмелыя — аж здавалася будуць немагчымымі. Аднак пад канец Сабору тыя адважныя праекты бадай усе ўвайшлі ў дакрэты-пастановы для абнаўленьня Царквы. З гэтых вучоных назавём фаміліі ведамыя на ўсім сьвеце, як Конгар, Шэню, Любак, Даніелю і інш.

Апрача Францыі таксама і Нямеччына паслала выдатных вучоных як Рагнэр, Кюнг і інш. Таксама і Голяндыя і Бэльгія.

Сама Італія і асабліва Рым, дзе групуюцца каталіцкія ўнівэсытэты, мела нямала сваіх вучоных, якія аднак трымаліся больш кірунку кансэрватыўнага, пад кіравецтвам кардыналаў Оттавіяні і Руфіні.

Людзі староннія, асабліва ў пратэстанскім асяродзьдзі, гаманілі, што будзе магчыма новая схізма, або гарэзія, — якбы то «старакаталікі» — на падабенства І-га Ватыканскага Сабору. Аднак кансэрватысты былі ў значнай меншасьці, галасавалі супраць, але пасьля спакойна паддаліся ўсім саборным пастановам.

✳

Папа ЯН і ПАВАЛ пільна сьлядзілі за ходам Сабору і кіравалі ім праз дэлегаваных кардыналаў, а самі слухалі праз радыё і бачылі праз тэлевізію ўсе падзеі. Прытым была дадзена поўная воля біскупам-прамоўцам, агранічываючы час прамоваў роўна для ўсіх біскупаў і кардыналаў.

Сэсіі Сабору лічыліся закрытымі, але-па выключэньні публікі і журналістаў — асталіся аўдытары і абсэрватары, дык нельга гаварыць аб выключным сакрэце. І сапраўды весткі лёгка разьбегаліся па ўсім сьвеце.

✳

Як мы ўжо паведамлялі, праца Сабору пасьля закрыцьця ня спынілася, толькі ўжо прыняла іншы характар. Сабор прыгатаваў грунт да сяўбы: цяпер астаецца праца дагляду — паліваць, ачышчаць усходы, а пасьля — зьбіраць плён, малаціць і веяць . . . Нельга праспаць, каб «не закраўся ўначы вораг і не насеяў між пшаніцы кукалю» і іншага зельля! І нельга дапусьціць, каб дасьпелая пшаніца высыпалася, ці падпала пад сьнег і так загінула . . .

Павал VI асабліва стаўся ў Царкве «слугой добрым і верным»: прыклікае да супрацы прадстаўнікоў з усіх народаў — і словам і дзелам пабуджае, каб каталікі не заспалі так добра ведзенай працы на Саборы. І ня толькі каталікоў, але і праваслаўных і пратэстантаў, а нават няхрысьціянаў Папа заклікае да еднасьці і да працы — для супакою на сьвеце і для ратунку ад голаду.

Дык кожны чалавек ёсьць адказным ня толькі за сябе, каб ня шкодзіў другім, але каб быў таксама слугою ўсіх, добрым і верным, сапраўдным чалавекам.

Цікавая справа: хто аплачываў падарожу і выдаткі біскупаў Сабору? Ведама, ня ўсе біскупы мелі дастаткова сродкаў на падарожу, дык ім памог сам Ватыкан, а Ватыкану памаглі іншыя багацейшыя краі, як Злучаныя Штаты Амэрыкі, Галяндыя, Нямеччына, Італія. Каб ні гэтая помач, біскупы Бразыліі, Індыі і дзяржаў камуністычных не маглі-б зусім прыбыць на Сабор. З Польшчы, напрыклад, урад пазваляў вывесьці ня больш 5 даляраў. На 215 біскупаў Бразыліі толькі трыццатка магла аплаціць падарожу. На 238 амэрыканскіх толькі 8 прасіла помачы, а з 91 канадыйскіх 2 не маглі самі аплаціць.

Адна з найпільнейшых справаў пасьля Сабору гэта — рэформа Кананічнага Кадэксу: да яе ўжо прыступілі, аднак праблема вельмі зацяжная — можа на дзесятак гадоў. Але ўжо цяпер Царква на такую рэформу чакае зара — «аб абавязках біскупаў», «аб службе сьвятароў», «аб аднаўленьні законнага жыцьця», «аб дзейнасьці місіянэраў» . . . — Тады-ж Павал VI загадаў адразу ўводзіць у жыцьцё загады Сабору, хоць яны яшчэ належна не кодыфікаваныя, як-бы выпрабаваць у практыцы новыя законы.

У такім дастасаваньні Сабору да жыцьця маюць важны ўдзел біскупскія Канфэрэнцыі па краёх сьвету: такім спосабам Сабор будзе тымчасова жыць у Царкве, каб хрыстовыя слугі не заспалі ў Божым вінаградніку.

Паўсюдна ў Каталіцкай Царкве ладзяцца спэцыяльныя Камітэты, Рады, або Канфэрэнцыі — у жыцьці парахвіяў, дыяцэзіяў і краёў: Да гэтага заклікаецца духавенства вышэйшае, а такжа дэлегаты ад сьвятароў, ад манастыроў мужскіх і жаночых і ад людзей сьвецкіх.

*а. Аляксандар Надсон*

# Сьвяты Кірыл Тураўскі

## IV.

## ЗАЛАТАВУСНЫ

З усіх твораў сьвятога Кірыла найбольш ведамымі зьяўляюцца ягоныя казаньні. Яны Захаваліся ў вялікай колькасьці сьпіскаў, некаторыя з якіх паходзяць з XIII-га стагодздзя. Гэта адно сьведчыць ужо аб вялікай папулярнасьці твораў. Сам лік казаньняў ёсьць аднак невялікі. Сяньня ведамыя толькі восем казаньняў, якія без сумніву належаць пяру сьвятога Кірыла. Вось яны: казаньне[43] на Вербную нядзелю, на Вялікдзень, на нядзелю сьв. Тамаша (першая нядзеля пасьля Вялікадня), на нядзелю Міраносіцаў і Язэпа Арыматэйскага (другая нядзеля пасьля Вялікадня), на нядзелю расслабленага (трэцяя нядзеля пасьля Вялікадня), на нядзелю сьлепанароджанага (пятая нядзеля пасля Вялікадня), на Узьнясеньне і на нядзелю Сьвятых Айцоў (шостая нядзеля пасьля Вялікадня).

Такім чынам усе казаньні сьвятога Кірыла прыпадаюць на вялікодны пярыяд, гэта значыць на найбольш урачысты час у літургічным календары. Вялікдзень зьяўляецца найвялікшым хрысьціянскім сьвятам. У Вербную нядзелю, а таксама ў нядзелі, якія беспасрэдна сьледуюць за Вялікаднем, Царква ў бізантыйскім абрадзе ўспамінае падзеі з жыцьця Ісуса Хрыста, дзе Ягоная боскасьць праявілася з найбольшай сілаю. Нядзеля Сьвятых Айцоў зьяўляецца быццам завяршэньнем гэтага кругу, бо ў гэты дзень сьвяткуецца памяць першага Агульнага Сабору ў Нікеі (325 г.), які супраць ерасі Арыя пацьвердзіў веру ў тое, што Хрыстос зьяўляецца Сынам Божым і сапраўдным Богам.

Як можна было спадзявацца, казаньні Кірыла, як і самыя сьвяты, носяць радасны і ўрачысты характар. Аўтар паставіў сабе за мэту «усхваліць», «уславіць», «узьвялічыць» сьвята.

Казаньні былі напісаныя без сумніву ў тым самым годзе. Адносна часу пэўнае паняцьце дае казаньне аб расслабленым, у канцы якога Кірыл кажа: «Гора таму, хто грэшыць пасьля прыняцьця духоўнага стану — гэта значыць пасьля манашества і сьвятарства, — а нават самому япіскапу, які не баіцца Бога . . .». Тут напэўна намёк на справу Тодарца і таму гэтае і ўсе іншыя казаньні былі напісаныя не пазьней, чым у 1169 годзе.

Кожнае казаньне сьвятога Кірыла складаецца з трох частак: уступ; аснаўная частка, якая звычайна зьяўляецца паясьненьнем і разьвіцьцём евангельскай тэмы; і заканчэньне.

Уступ звычайна ёсьць вельмі кароткі. Ягоным заданьнем было зацікавіць слухачоў, зьвярнуць іхнюю увагу на тэму казаньня і даць аснову да разьвіцьця гэтай тэмы ў наступнай частцы, не апярэджваючы аднак яе.

У нядзелю Тамаша Кірыл пачынае казаньне такім чынам:

«Дзеля усхваленьня гэтага сьвята Царква патрабуе вялікага настаўніка і мудрага прамоўцу. Мы-ж бедныя словам і мутныя розумам і ня маем боскага агню для складаньня словаў карысных для душы; аднак дзеля любові да братоў, якія тут ёсьць з намі, пастараемся сказаць што-небудзь карыснае аб абнаўленьні Хрыстовага зьмёртвыхустаньня».

А вось уступ да казаньня ў нядзелю сьлепанароджанага:

«Міласердзе Божае і чалавекалюбства Госпада нашага Ісуса Хрыста, і ласку Духа Сьвятога, дараваную шчодра людзкому роду, прапаведую вам, браты, добрыя хрысталюбівыя слухачы, дзеці Царквы, сыны сьвятла, прычасьнікі царства нябеснага. Аднак не ад свайго сэрца кажам гэтыя словы, — у грэшнай душы ня родзіцца ні добрая справа, ні слова карыснае, — але расказваем тое, што мы ўзялі з чытанага сяньня евангельля ад Яна Багаслова, сьведкі цудаў Хрыстовых».

На Узьнясеньне Господа Нашага Ісуса Хрыста аўтар, быццам няпэўны ў сваіх сілах, просіць прарока Захара памагчы яму уславіць так вялікае сьвята:

«Прыдзі сяньня духам, сьвяты прароча Захар, даючы пачатак нашаму казаньню ад тваіх прароцтваў аб узьнясеньні на неба Госпада Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста! Бо ты-ж паказаў нам гэта не ў прыповесьці, але яўна, кажучы: Вось Бог наш ідзе у славе, ад бітвы войска свайго, і ўсе сьвятыя з Ім; і割 стануць ногі Яго на гары Аліўкавай, проста на ўсход ад Ерузаліму.[44] Хочам і ўсё апошняе ад цябе даведацца . . . »

Абудзіўшы зацікаўленьне слухачоў, Кірыл пераходзіў да галоўнай часткі казаньня: Звычайна тэмаю служыла евангельле дня. Аднак кароткі евангельскі расказ Кірыл пашыраў, разьвіваў і, дзе магчыма, уводзіў у яго драматычны элемэнт, які вельмі ажыўляў казаньне. Тыповым прыкладам можа слу-

[43] У старабеларускай мове казаньні называліся «словамі».

[44] Гл. Зах. 14, 3-4. Цытата недакладная.

жыць казаньне на нядзелю Міраносіцаў і Язэпа Арыматэйскага. Евангельле сьв. Марка коратка гаворыць аб тым, як Язэп папрасіў у Пілата цела Хрыста і пахаваў Яго ў новым гробе. У Кірыла расказ пачынаецца лірычным плачам Багародзіцы, якая стаяла пры крыжы Хрыстовым:

«Усё стварэньне спачувае мне. Сыне мой, бачачы Тваю несправедлівую сьмерць. Гора мне, Дзіця маё, Сьвятло і Творча ўсяго, што існуе! Якія цярпеньні Твае мне трэба аплакваць сяньня: аплявухі і біцьцё па твары і па сьпіне; путы ў вязьніцы; ці аплёўваньне Твайго сьвятога твару, якое Ты прыняў за Тваю дабрату ад беззаконьнікаў? Гора мне, Сыне! Будучы нявінным, Ты быў зьняважаны і пацярпеў сьмерць на крыжы. Як яны сьмелі каранаваць Цябе цернямі, паіць воцтам і жоўцяй і прабіць дзідаю Твае усячыстыя рэбры!... Бачу Цябе, мілае дзіця, як Ты вісіш голы на крыжы, бяздушны, бяз выгляду і прыгожасьці, і душа мая горка крывавіцца. Я жадала-б памерці з Табою, бо не магу глядзець на Цябе бяздушнага. Няма мне больш ніякай радасьці, бо маё Сьвятло і Надзея і Жыцьцё, Сын мой і Бог на дрэве згаснуў. Дзе маё, Сыне, дабравешчаньне, якое мне некалі апавясьціў Гаўрыла, кажучы: „Радуйся, абрадаваная, Госпад з Табою”? ... Гора мне! Каго паклічу, каб плакаў са мною? З кім буду выліваць ручаі сьлёзаў? Усе Твае сябры і прыяцелі пакінулі Цябе, усе тыя, што карысталі з Тваіх цудаў. Дзе цяпер лік сямідзесяці вучняў? Дзе вярхоўныя апосталы? Адзін з іх Цябе хітрасьцю здрадзіў фарызэям, другі-ж, дзеля страху перад першасьвятарамі, выракся Цябе кажучы, што ня ведае гэтага чалавека. Я адна, Божа мой, служка Твая, стаю і плачу разам з ахоўнікам Тваіх словаў, Тваім улюбёным наперсьнікам. Гора мне, Ісусе мой, дарагое імя! Як гэта зямля стаіць, чуючы на сабе Цябе на крыжы павешанага ... Прыдзіце, глядзіце на тайну Божага міласердзя, як Той, які ажывіў усё, сам памёр ганебнай сьмерцю».

Гэты плач пачуў Язэп Арыматэйскі і падышоў да Багародзіцы. Убачыўшы яго, Багародзіца просіць яго пайсьці да Пілата і папрасіць цела Хрыста. Язэп, перамагаючы страх перад жыдамі, выконвае просьбу Багародзіцы. Ён ідзе да Пілата і просіць у яго цела Хрыста такімі славамі:

«Дай мне, ігемане, цела таго дзіўнага Ісуса, укрыжаванага між двумя разбойнікамі, абвінавачанага з зайздрасьці першасьвятарамі, зьняважанага бясправўна жаўнерамі. Дай мне цела таго Ісуса, якога кніжнікі называюць Сынам Божым, а фарызэі клічуць цэзарам, і якому ты прыказаў прыбіць над галавою дошку з надпісам: Гэта Сын Божы і цэзар жыдоўскі. Дай мне цела Таго, каго собскі вучань, спакусіўшыся на серабро, выдаў сьвятарам ... Прашу цябе аб целе Таго, аб кім Каяфа прадсказаў, што яму аднаму належыць памерці ... Прашу цела таго Ісуса, які на тваё пытаньне адказаў: Я ёсьць сьвятло і праўда ... Дай мне зьняць цела з крыжа, бо я хачу палажыць яго ў маім гробе ...»[46]

Атрымаўшы ад Пілата цела Хрыста, Язэп разам з Нікодымам нясуць яго пахаваць, плачучы пры гэтым:

«Сонца незаходнае, Хрысьце, Творча ўсіх і Уладару ўсяго стварэньня! Як я пасьмею даткнуцца да Твайго ўсячыстага цела, да якога ня сьмеюць дакранацца нават нябесныя сілы ... Якія песьні надгробныя сьпяваць буду Табе, каго на небе нязмоўкна славяць сэрафімы! Як я панясу на руках маіх Цябе, Нявідзімага Уладара, які сілаю сваею носіць

---

[45] «Плачы» былі шырока ведамымі у усходняй царкоўнай літаратуры. Найбольш распаўсюджанымі былі «плачы» Багародзіцы. Яны знайшлі свой адбітак у г. зв. «крэстабагародзічных» трапарах і ў песьнях службаў Вялікага Тыдня. Сярод іх цікавасьць прадстаўляе канон «на укрыжаваньне Госпада і на плач Багародзіцы». Аўтарам канону зьяўляецца грэцкі пісьменьнік Сымон Мэтафраст, ведамы таксама як Сымон Лягатэт, які жыў у палове 10-га стагодзьдзя. Вось некалькі трапароў з гэтага канону:

«Вось сьвятло маё салодкае і надзея і жыцьцё маё добрае, Бог мой згаснуў на крыжы, і сэрца маё крывавіцца, — кажа Дзева з плачам.

Бачачы Усячыстую ў горкіх сьлёзах, Язэп узрушыўся ўвесь і з плачам пайшоў да Пілата. Дай мне, — усклікнуў ён з сьлязамі, — цела Бога майго.

Бачу Цябе мёртвым, Чалавекалюбча, які ажывіў мёртвыя і трымаеш усё, і люта цярплю, — кажа Багародзіца. — Хацела-б памерці з Табою. бо не магу глядзець на Цябе бяздушнага і мёртвага

Акрамя канону Сымон напісаў іншы твор. які завецца: «Плач Багародзіцы, калі яна абнімала цела Хрыста». (гл. Migne, Patrologia Graeca, Vol 114. pp. 208-218).

Кірыл быў напэўна знаёмы з гэтымі творамі. або прынамсь з канонам. Іхні уплыў адчуваецца ў ягоным «плачы».

[46] У Эпіфана Кіпрскага (315-403) маецца падобная прамова Язэпа да Пілата. Вось вынятк з яе:

«... Дай мне на пахаваньне мёртвае цела таго засуджанага табою Ісуса Назарэя, Ісуса жабрака. Ісуса бяздомнага, Ісуса ўсімі бачанага голага. упакоранага, дзіўнага, няведамага сярод чужых. пагарджанага ўсімі ... Дай мне цела гэтага дзіўнага, бо якая табе карысьць з гэтага цела ... дай мне цела гэтага мёртвага, а разам і Бога, каб я мог пакрыць пакрыўшага мае бясчынствы; дай мне гэтага мёртвага, каб я мог пахаваць пахаваўшага ў Ярдане мае грахі ...» (гл. F. Miklosich. Monumenta Linguae Paleoslovenicae e Codice Suprasliensi. Vindobonae 1851, pp. 343—344).

Казаньне Эпіфана было ведамае ў славянскім тлумачэньні ужо ў 11-ым стагодзьдзі і ўвайходзіла ў склад г. зв. Супрасьлскага Зборніку. Зборнік гэты, хоць небеларускага паходжаньня, зьяўляецца адным з найстарэйшых памятнікаў пісьменства на Беларусі.

усё стварэньне? Як я палажу ў маім бедным гробе Цябе, які уцьвярдзіў круг нябесны і спачываеш на херувімах разам з Айцом і Сьвятым Духам ...»[47]

Мінуўшы сыбоце, жанчыны-міраносіцы прышлі на гроб. Там яны ўбачылі ангела, які адкрыў ім тайну збаўленьня роду людзкога Хрыстом:

«... Хачу расказаць вам тайну Божай любові да людзей, як Ён пацярпеў за Адама, які упаў у тленьне. Дзеля яго Ён зыйшоў з неба і, прыняўшы цела, стаўся чалавекам, каб загінуўшага абнавіць і ўзяць з сабою на неба. Той (г. зн. Адам), паслухаўшы рады ворага, захацеў стаць богам і быў пракляты; гэты-ж (г. зн. Хрыстос) паслухаўся Айца і, будучы Богам, стаўся чалавекам, каб зьнішчыць зьмея і зрабіць чалавека богам. Той, працягнуўшы руку да забароненага дрэва, сарваў сьмяротны плод і, стаўшыся нявольнікам граху, зышоў з раю ў пекла. Хрыстос, распасьцёршы рукі на крыжы, асвабадзіў людзей ад прысуду грахоўнага і ад сьмерці ...»[48]

Казаньне канчаецца пахвалаю Язэпу Арыматэйскаму.

Тон у дыялягах сьвятога Кірыла мяняецца цэлы час у залежнасьці ад нагоды і бывае то паважны і урачысты, то поўны паэтычнага лірызму. Часам ён нават набывае характар звычайнай штодзённай размовы, як напрыклад у выпадку расслабленага, які на запытаньне Хрыста, ці хоча быць здаровым, расказвае Яму ўсе свае няшчасьці:

«Так ... Госпадзе! Хацеў-бы, але ня маю чалавека, які-б мяне укінуў у купелю пасьля таго, як ангел усхвалюе ваду. Але пакольні Ты запытаў мяне аб здароўі, Уладару, дык паслухай майго кароткага адказу, каб я мог Табе расказаць усе мае няшчасьці і хваробы. Трыццаць і восем гадоў я ляжу прыкованы да гэтай вось пасьцелі ... Я затраціў на лекараў усю маю маемасьць, але не атрымаў ніякага аблягчэньня, бо няма такога зельля, якое-б супроцьдзеяла кары Божай. Мае знаёмыя брыдзяцца мною, бо мой смурод робіць мяне няпрыемным, а мае сваякі саромяцца мяне і я стаў чужым для маіх братоў. Магчыма я памёр? Але-ж жывот мой есьці хоча і язык сохне ад смагі. Дык можа я жывы? Але-ж я не магу ня толькі ўстаць з ложка, але нават паварухнуцца: маю ногі, якія ня ходзяць, і рукі, якімі ня толькі не магу нічога рабіць, але нават дакрануцца. Я — непахованы труп, а гэты ложак — мой гроб. Я мёртвы сярод жывых і жывы сярод памершых, бо, як жывы, хачу есьці і, як мёртвы, не магу нічога рабіць ...»[49]

Выслухаўшы ўсе жалі расслабленага, Хрыстос адказвае:

«... Як гэта ты кажаш: Ня маю чалавека? Я-ж дзеля цябе стаўся чалавекам, шчодры і міласьцівы, і не зламаў абяцаньня уцелаўленьня ... Дзеля цябе, пакінуўшы сцэптр вышняга каралеўства, я хаджу, служачы тым, што жывуць унізе: бо я ня прышоў, каб мне служылі, але каб служыць. Дзеля цябе Я, будучы безцялесным, прыняў цела, каб аздаравіць усіх ад духовых і цялесных немачаў. Дзеля цябе Я, будучы нявідзімым для нябесных сілаў, явіўся ўсім людзям, бо Я не жадаю пагарджаць маім вобразам, што ляжыць у заняпадзе, але хачу прывесьці ўсіх да пазнаньня праўды. А ты кажаш ня маю чалавека! Я стаўся чалавекам, каб чалавека богам зрабіць, бо сказаў: бага-

---

[47] Параўнай сьціхіру, якая сьпяваецца ў Вялікую Пятніцу на вячэрні на вынас плашчаніцы:

«Бачачы Цябе, які апранаецца сьвятлом як вопраткай, голага, мёртвага і непахаванага, Язэп з Нікодымам, узьняўшы шчыры плач, казаў: Гора мне, салодкі Ісусе! Убачыўшы Цябе павешанага на крыжы, сонца пецямнела і зямля з страху затраслася і царкоўная заслона разадралася. Бачу Цябе сяньня дзеля мяне дабравольна прыняўшага сьмерць. Як я пахаваю Цябе, Божа мой? Якою плашчаніцаю спаўю Цябе? Якімі рукамі дакрануся да Твайго нятленнага цела? Якія песьні сьпяваць буду, хаваючы Цябе, Усядобры? ...».

[48] Параўнаньне Адама і Хрыста, вельмі пашыранае у сьвятаайцоўскай літаратуры, бярэ свой пачатак ад сьв. Паўла, у якога спатыкаюцца выражэньні, як: «Як цераз праступак аднаго ўсім людзям асуджэньне, гэтак цераз праведнасьць аднаго ўсім людзям апраўданьне на жыцьцё» (Рым. 5, 18); або: «Як у Адаме ўсе паміраюць, так у Хрысьце ўсе ажываюць» (I Кар. 15, 22).

У раньняй усходнеславянскай царкоўнай літаратуры было ведамае «слова (казаньне) аб Адаме і Хрысьце», бізантыйскага паходжаньня. Яно было нават устаўлена у «казаньне аб законе і ласцы» кіеўскага Мітрапаліта Ілярыёна (прыб. 1051). Вось вынятні з яго:

«Дзеля таго Хрыстос радзіўся ад чыстае Дзевы, бо Адам быў створаны з чыстае зямлі; пакольні Адам, дасканалы чалавек, саграшыў як дзіця, дзеля таго Хрыстос прыгвазьдзіў цела сваё на крыжы, каб аздаравіць Адама, параненага сьмяротным дрэвам; Дзеля таго Хрыстос прыгвазьдзіў рукі да крыжа, бо Адам руку працягнуў да дрэва ... дзеля таго Хрыстос спробаваў воцту і жоўці, бо Адам соладка еў ... (гл. Ф. Г. Калугин, Илларион Митрополит Киевски; у кнізе: А. И. Пономарев, Памятники древнерусской церковно-учительной литературы, Вып. I, СПб. 1894, бб. 83-84).

[49] У прамове адчуваецца уплыў літургічных тэкстаў дня. У песьнях на вячэрні на нядзелю расслабленага чытаем:

«Я непахованы труп, — усклікнуў расслаблены, убачыўшы Цябе. — Зьлітуйся нада мною, Госпадзе, бо гэты ложак ёсьць маім гробам.

Хворы адказаў: чалавека ня маю, каб, калі усхвалюецца вада, укінуў мяне ў купелю. Лекарам аддаў я ўсю маю маемасьць, але ласкі атрымаць не удастоіўся».

Намёк на лекараў адсутнічае ў евангельскім расказе аб расслабленым (Ян 5, 1-15). Ён напэўна ўзяты з расказу аб жанчыне, хворай крывацёкам (Мк. 5, 26 і Лк. 8, 43).

мі будзеце і сынамі Усявышняга.[50] Хто-ж служыць табе больш верна, чым Я? . . .»[51]

Гэты адказ Хрыста, а таксама вышэй прыведзеная прамова ангела да міраносіцаў, належаць да найбольш велічных рэчаў напісаных сьвятым Кірылам. У іх ён разьвівае вучэньне аб усеагульным збаўленьні роду людзкога через Хрыста. Паводле стылю і зьместу іх можна паставіць з найлепшымі прыкладамі усходняга сьвятайцоўскага пісьменства.

Драматызацыя у творах сьвятога Кірыла праяўляецца ня толькі ў дыялёгах, але таксама ў апісаньні дзеяньня. Найлепшым прыкладам гэтага можа служыць казаньне на Узьнясеньне, якое трэба лічыць вяршыняю ягонага красамоўнага мастацтва. Дзеяньне пачынаецца на Аліўкавай гары, дзе разам з Хрыстом зьбіраецца ўся Царква: патрыярхі, апосталы, вучні і вялікая грамада верных. У тым самым часе ангелы на небе рыхтуюцца да прыняцьца Хрыста: «Адны прыносяць на крыльлях хмару дзеля ўзьняцьця з зямлі Госпада Ісуса Хрыста Бога нашага, іншыя рыхтуюць херувімскі трон. Бог Айцец чакае Таго, каго меў з сабою ад пачатку, а Сьвяты Дух загадвае ангелам: Адчыніце нябесныя вароты, і хай увойдзе Цар славы». Усюды пануе рух і радаснае чаканьне вялікага здарэньня . . . На гары апосталы, бачачы, што Хрыстос іх хутка пакіне, просяць жаласьліва: «Не пакінь нас, Уладару, сіротамі, каго Ты ў міласэрдзі Тваім дабравольна палюбіў, але пашлі нам Духа Твайго Сьвятога, якога Ты нам абяцаў». Наканец Хрыстос, пацешыўшы вучняў і паблагаславіўшы іх, пачынае узносіцца на неба:

«Перад Ім ішлі ангельскія сілы, з страхам і радасьцю, хочучы адчыніць нябесныя вароты; аднак нябесныя вартаўнікі ня пушчалі іх, кажучы: „Гэта вароты гасподнія і ніхто з зямных імі ўвайсьці ня можа, бо так нам загадаў Бог, каб ніхто сюдэю не прайшоў. Цяпер-жа дзівімся, бачачы чалавека, які сядзіць на херувімскім троне і жадае ўвайсьці цераз гэтыя вароты перад сэрафімамі". Тады ангелы аб'явілі ім Божую сілу і годнасьць, якая знайходзіцца ў гэтым чалавечым целе, і загадалі не працівіцца волі Бога, які ўсё мудра стварыў. „Бо Ён, — казалі яны, — зыйшоў на зямлю нябачаны нікім і цяпер вось ўзыйходзіць зноў у выглядзе слугі". Яны аднак адказалі: „Не паслухаемся, пакуль не пачуем Божага загаду". Тады сам Хрыстос усклікнуў: „Адчыніце мне вароты праўды, каб, увайшоўшы, Я мог расказаць Айцу майму, што Я рабіў і як цярпеў на зямлі". Пазнаўшы голас Госпада, усе сілы нябесныя, упаўшы, пакланіліся Яму і сказалі: „Хоць мы і ня бачылі, Уладару, як Ты зыйходзіў (на зямлю), але пакланяемся Табе цяпер калі Ты ўзыйходзіш у славе"».

Кірыл упрыгожваў свае казаньні рознымі красамоўнымі хвормамі і зваротамі. Сярод іх ён часта ужываў антытэзу, або супроцьстаўленьне. Такім чынам ён супрацьстаўляе Хрыста і Адама ў прыведзенай вышэй прамове ангела да міраносіцаў. Вось яшчэ адзін прыклад, узяты з казаньня на Вялікдзень:

«Перад учарашнім днём Хрыстос быў укрыжаваны як ч а л а в е к, але як Б о г зацьміў сонца і месяц акрываваў і цемра зрабілася на зямлі; як ч а л а в е к, Ён, усклікнуўшы, аддаў дух, але як Б о г Ён ўстрасянуў зямлёю, так што камні распаліся; як ч а л а в е к Ён быў прабіты дзідаю ў рэбры, але як Б о г заслону першага закону разадраў напалову . . . як ч а л а в е к Ён быў паложаны ў гробе, але як Б о г асьвяціў аўтар паганскай царквы . . . »[52]

Іншым частым прыёмам Кірыла было паўтарэньне. У казаньні аб сьлепанароджаным, калі Хрыстос спаткаў чалавека, якога Ён аздаравіў і запытаў яго, ці верыць у Сына Божага, той адказаў:

«В е р у, Госпадзе, і кланяюся Табе! В е р у ў Цябе, Сыне Божы, і слаўлю Цябе! В е р у, Уладару, і вызнаю Цябе, як Збаўцу Хрыста! В е р у, Міласерны, у Твой прыход на зямлю і Твой узыход на неба з чалавекам! Ты ё с ь ц ь т о й, аб якім пісалі пракокі, убачыўшы духам Тваё уцелаўленьне! Т ы ё с ь ц ь т о й, якога патрыярхі прадбачылі ў вобразе ягняці, узяўшага на сябе грахі сьвету! Т ы ё с ь ц ь, Госпадзе, т о й самы, аб якім вучылі заканадаўцы: 'Калі прыдзе

---

[50] Гл. Псал. 81, 6; таксама Ян 10, 34.

[51] Параўнай прамову Хрыста з сьціхірай на ліцьці на вячэрні у нядзелю расслабленага:

«Зьлітаваўшыся, Збавіцель кажа яму (г. зн. расслабленаму): Дзеля цябе Я стаўся чалавекам, дзеля цябе я прыняў цела, а ты кажаш: Чалавека ня маю . . . »

[52] У Ілярыёна, Мітрапаліта Кіеўскага, чытаем:

«(Хрыстос) . . . як чалавек прышоў хрысьціцца, але Ярдан спужаўся Яго, як Бога, і павярнуў назад; як чалавек, прыйшоў Ён на вясельле ў Кану Галілейскую, але, як Бог, перамяніў ваду ў віно . . . Як чалавек быў укрыжаваны, але як Бог упусьціў у рай укрыжаванага разам з Ім; як чалавек спробаваў воцту і аддаў дух, але як Бог зацямніў сонца і затрос зямлёю; як чалавек быў паложаны ў гробе, але як Бог разбурыў пекла і вызваліў душы . . . » (гл. Кулагин, ор. сіт. бб. 64-65).

Старажытныя пісьменьнікі любілі супастаўляць людскую і боскую натуры Хрыста, і ў ягоным дабравольным упакарэньні бачылі, зусім слушна, доказ бязьмернай любові Бога да людзей.

Ілярыён быў першым кіеўскім мітрапалітам нягрэцкага паходжаньня (прыбл. 1051—1054). Ён аставіў па сабе адзін твор, які завецца «Слова (казаньне) аб законе і ласцы». Судзячы па ім, Ілярыён быў адзіным раньнім усходнеславянскім царкоўным пісьменьнікам, які сваімі здольнасьцямі і ведамі мог раўняцца з Кірылам Тураўскім.

Мэсыяш, Ён уняважніць Закон і падасьць ласку'...»

У казаньні на нядзелю Тамаша Кірыл мае надзвычай прыгожае апісаньне веснавога адраджэньня прыроды, як сымбалю аднаўленьня ўсяго стварэньня цераз Хрыстовае зьмёртвыхустаньне:

«Сяньня вясна красуецца, ажыўляючы зямную прыроду, і бурныя вятры, ціха павяваючы, прыносяць багацьце пладоў, а зямля, кормячы семя, родзіць зялёную траву... Сяньнянованароджаныя ягняты і цяляты хутка бегаюць і скачуць па пасьцьбішчы і весела вяртаюцца да сваіх матак, а пастухі на жалейках радасна Хрыста славяць...»

Вельмі магчыма аднак, што гэты вобраз вясны быў напісана ня столькі ў выніку назіраньня прыроды ў аколіцах Турава, сколькі пад уплывам падобных апісаньняў у творах сьв. Рыгора Наз'янскага (329-389).[53] Кірыл у пэўнай меры псуе мастацкі эфэкт, даючы вобразу алегарычнае тлумачэньне:

«Вясна — гэта вера Хрыстова, якая праз хрост родзіць нанова людзкую натуру; бурныя вятры — гэта грэшныя пажаданьні, якія цераз пакуту ператвараюцца ў цноты і прыносяць плады карысныя для душы; зямля-ж — гэта наша натура, якая, прыняўшы семя слова Божога, ... родзіць у страху дух збаўленьня...»

Кірыл быў чалавекам свайго часу і таму, пры ўсіх сваіх здольнасьцях, ня мог пазбыцца заганаў, якія панавалі ў тагачаснай бізантыйскай і усходнеславянскай літаратурах. Адной з такіх заганаў было церазмернае ужываньне алегорыі. Алегорыя, або іншасказаньне, — гэта спроба знайсьці іншы, «глыбейшы», сэнс у штодзенных зьявах. Яна мае сваё законнае мейсца і зьяўляецца неад'емнай часткай прыповесьці. Церазьмернае аднак яе ўжываньне ўводзіць у твор элемэнт штучнасьці і адарванасьці ад жыцьця. Бізантыйскія царкоўныя пісьменьнікі часу сьв. Кірылы надужывалі алегорыяй. Тое самае рабілі і беларусы і украінцы. Клімэнт Смаляціч у сваім пісьме да сьвятара Тамаша пісаў: «Я хочу ведаць іншасказальна цуды Хрыстовыя, апісаныя ў Евангельлі». Сьвяты Кірыл ня быў выняткам у гэтым, хоць у ягоных творах спатыкаецца меньш штучнасьці і алегорыі, чым у іншых аўтараў.

Кірыл канчае звычайна свае казаньні кароткай пахвалой Богу і сьвяту. Вось заканчэньне казаньня на нядзелю Тамаша:

«Таму, браты, верым Хрысту Богу нашаму, укрыжаванаму паклонімся, зь мёртвых устаўшага уславім, явіўшамуся апосталам верым і пяем паказаўшаму рэбры Тамашу, прышоўшага ажывіць нас усхвалім, вызнаем асьвяціўшага нас, узьвялічым падаўшага нам багацьце дабротаў, пазнаем адзінага ад Тройцы Госпада і Бога і Збаўцу нашага Ісуса Хрыста, якому слава з Айцом і Усесьвятым Духам».

Акрамя сваей кароткасьці, гэтае і іншыя заканчэньні казаньняў сьвятога Кірыла зьвяртаюць на сябе ўвагу адсутнасьцю маральнага павучэньня. У гэтым беларускі Залатавусны розьніўся вельмі ад сьв. Яна Залатавуснага (347—407). Вялікі Архіепіскап Канстантынопальскі быў слаўны з таго, што стараўся заўсёды і ўсюды датарнаваць навуку Хрыстовую да патрэбаў штодзённага жыцьця, асабістага і грамадзкага. Гэта знайшло моцны адбітак у ягоных казаньнях, дзе маральнае павучэньне, пасьля паясьненьня сьвятога Пісьма, было складовай часткаю. У сьвятога Кірыла нічога падобнага не спатыкаецца. Ён падыходзіць найбліжэй да практычнага павучэньня пры канцы свайго казаньня на вербніцу:

«Дык вось, браты, выпадае нам, як людзям Божым, уславіць Хрыста, які палюбіў нас. Прыдзіце і паклонімся Яму і прыпадзем у думках, як блудніца, цалуючы ягоныя чыстыя ногі; адрачэмся, як яна, ад дрэнных дзеяньняў; выльлем ня ягоную галаву, як міра, нашу веру і любоў; выйдзем, як тады народ, насустрач Яму і зломім, як галіны, наш гнеў. Пасьцелем Яму, як вопратку, нашыя добрыя учынкі; усклікнем Яму ў малітвах бяз злосьці, як малыя дзеці; пойдзем перад Ім, паказваючы міласердзе да бедных... Падрыхтуем, як ізбу, у пакоры нашыя душы, каб Сын Божы ўвайшоў туды пад відам прычасьця і зрабіў там вячэру з вучнямі сваімі... Умяртвім пажаданьні цялесныя; усклікнем: Асанна у вышніх! Благаславёны Той, хто прышоў на дабравольнае цярпеньне, які Ён зьнішчыў пекла і перамог сьмерць».

Гэтае павучэньне ёсьць аднак збыт агульніковае, каб мець якое практычнае значэньне. Наагул казаньні сьвятога Кірыла робяць уражаньне радасных гімнаў душы, прызвычаенай да сталага разважаньня над тайнамі Божымі, у чэсьць Усявышняга. Безумоўна, характар сьвятаў, для якіх яны былі прызначаныя, надаваўся вельмі добра да такога тыпу казаньняў. Найбольш аднак тут хіба заважыў духовы склад самога аўтара.

Зрэштаю казаньні сьвятога Кірыла, узятыя ў цэласьці, ня ёсьць пазбаўленыя навучальнага элемэнту. Можна нават сказаць, што мэтаю Кірыла было збудаваць слухачоў, даць і духовую страву. Дзеля гэтага у ўсіх

[53] Аб уплыве Рыгора Наз'янскага на Кірыла Тураўскага глядзі: André Vaillant, Cyrille de Turov et Gregoire de Nazianze, Revue des Études Slaves, Tome 26, Paris 1950, pp. 34-50.

ягоных казаньнях, ня меньш чым у малітвах, ёсьць стала прысутная думка аб Божым міласэрдзі і аб Ягонай любові да людзей. Гэтае міласэрдзе праяўляецца асабліва ў дзеле адкупленьня роду людзкога Хрыстом, які «прышоў ня толькі дзеля праведных, але каб узьняць увесь упаўшы праступны сьвет, бо Ён узяў грахі ўсіх і прыгвазьдзіў іх да крыжа». (казаньне на Вялікдзень).

«Вось мудрасьць Божая і ягоная невымоўная любоў да людзей, — усклікае Кірыл у іншым месцы. — Якая душа ня радуецца аб Ягоным міласэрдзі, якім Ён нас палюбіў і прыблізіў да сябе, калі мы былі далёка ад Яго» (казаньне на нядзелю сьлепанароджанага).

Да навучальнага элемэнту трэба таксама аднесьці вобраз Язэпа Арыматэйскага, які, перамагаючы страх перад жыдамі, аддае апошнюю паслугу Хрысту.

Кірыл разьвівае ў сваіх казаньнях пэўныя багаслоўскія тэмы, сярод якіх параўнаньне і супрацьстаўленьне паміж часамі старога і Новага запаветаў займае віднае месца:

«... Ідаласлужэньне адышло ўжо і крыжовая тайна перамагла бясоўская насільле, а род людзкі ня толькі збавіўся, але і асьвяціўся вераю Хрыстоваю. Пасьля адмены ахвяры казьлятаў і цялячай крыві Стары закон абяднеў; адзін Хрыстос цяпер прынёс сябе за ўсіх Айцу ў ахвяру» (казаньне на нядзелю Тамаша).

Вось яшчэ прыклад:

«... Мінуў ужо Стары закон з патрабаваньнем казьліных ахвяраў і запаветамі старцаў, ня могучы аздаравіць людзкіх недамаганьняў; закон Майсея нічога не асягнуў, а толькі аддаў усіх пад грэх. Цяпер сам Тварэц і Заканадаўца прышоў абнавіць стварэньне і збавіць чалавека, як кажа аб Ім прарок: Не заступнік і не ангел, але сам Госпад збавіў нас» (казаньне на нядзелю сьлепанароджанага).

Гэтая самая думка зьяўляецца асноваю параўнаньня купелі у Бэтсаідзе з хростам у казаньні на нядзелю расслабленага:

«... (У Бэтсаідзе) ангел гасподні, прыйшоўшы, хваляваў ваду і той, хто першы ўвайходзіў у яе пасьля гэтага, рабіўся здаровым. Гэта быў вобраз сьвятога хросту, бо не заўсёды вада гэтая аздараўляла, але тады, калі яе парушаў ангел. Цяпер-жа у купелі хросту сам уладар ангелаў, Сьвяты Дух, прыходзіць і асьвячае яе, даючы здароўе для душаў і целаў і ачышчэньне грахоў. Калі хто сьляпы розумам, ці кульгае бязверрам, ці засох у роспачы басчынстваў, ці спаралiжаваны хвальшывай навукаю — усіх вада хросту аздараўляе. Тая купеля ўсіх прыймала, але толькі аднаго аздараўляла, і то не заўсёды, а адзін раз у год, — а купеля хросту кожны дзень многіх аздараўляе і ажыўляе. Нават калі людзі з усёй зямлі прыдуць да хросту, ласка Божая гэтым не паменьшыцца і ўсе атрымаюць аздараўленьне ад грахоўных немачаў».[54]

Такім чынам навучальны элемэнт у казаньнях Кірыла не адсутнічае і ў іх нават адчуваецца жаданьне аўтара задаволіць духовыя патрэбы сваіх слухачоў. Толькі ў выкананьні гэтага жаданьня Кірыл паказаўся ў першую чаргу паэтам ...[55]

У казаньнях сьвятога Кірыла адчуваецца шчасьлівае спалучэньне выдатных пісьменьніцкіх здольнасьцяў з абшырнымі ведамі. Кірыл быў без сумніву адным з найлепшых

---

[54] Параўнаньне Бэтсаіды з хростам знайходзіцца ўжо у сьв. Яна Залатавуснага:

«... Так як тады (г. зн. у Бэтсаідзе) не вада сама лячыла, — бо інакш рабіла-бы гэта заўсёды, — але моц ангела, таксама і ў нас ня проста вада, але вада пасьля атрыманьня ласкі Сьвятога Духа робіцца здольнай змыць грахі... Тады слабасьць магла перашкодзіць таму, хто шукаў выздараўленьня. Цяпер усе маюць поўную свабоду прыбліжацца, бо не ангел ужо варушыць ваду, але сам Уладар ангелаў усё дзейнічае... Нават калі-б увесь сьвет прыйшоў, ласка ня зьменьшыцца, як і ня зьменьшыцца яе моц, але заўсёды астанецца той самай». (гл. Migne, Patrologia Graeca, Vol. 59, p. 203).

За Янам Залатавусным гэты самы прыклад паўтарыў Тэафілякт Баўгарскі, грэцкі царкоўны пісьменьнік з пачатку 12-га стагодзьдзя (гл. Migne, Patrologia Graeca, Vol. 123, pp. 1257—1260).

Кірыл быў напэўна знаёмы з творамі гэтых пісьменьнікаў.

[55] Галубінскі, які так пахвальна адазваўся аб малітвах Кірыла, вельмі срога асудзіў ягоныя казаньні, бачучы ў іх толькі пустую рыторыку (гл. Голубинский, op. cit. бб. 797-798). Ніхто з іншых вучоных не згадзіўся з ягонымі поглядамі. Цікавая ёсьць думка Сухамлінава, аднаго з першых сур'ёзных дасьледчыкаў творчасьці сьв. Кірыла:

«Паясьненьні, а таксама і апісаньні, Кірыла Тураўскага вызначаюцца наіўнасьцяй і пэўнай гульнёй вьгбразьні ў адрозьненьне ад бізантыйскіх (твораў), пабудованых паводле схалястычных узораў і нудных у сваей аднастайнасьці. Вывады, робленыя бізантыйцамі ў іхніх рытарычных практыкаваньнях, астаюцца без ніякіх адносінаў ня толькі да жыцьця, але нават да маральнасьці ў самым шырокім значаньні гэтага слова. З сучаснага пункту гледжаньня Кірыл Тураўскі можа выдацца догматыкам у пераважнасьці. Аднак параўнаньне з бізантыйскімі узорамі паказвае, што ён не забыў маральнай мэты і, як ні наіўныя ягоныя параўнаньні, яны ў большай частцы схіляюцца да таго, каб даць настаўленьне, а не аб'ясьненьне догматаў». (гл. Сухомлинов, op. cit. б. 292).

Трэба зазначыць, што існуе некалькі казаньняў, якія звычайна прыпісваюцца сьв. Кірылу, хоць няма упэўненасьці, што ён быў сапраўды іхнім аўтарам. Сярод іх ёсьць такія, як «казаньне аб царкоўным павучэньні» і «павучэньне аб чытаньні сьвятога пісьма». Калі Кірыл ёсьць сапраўды аўтарам гэтых твораў, дык ён зьяўляецца без сумліву майстрам ня толькі урачыстага, але і павучальнага прапаведаньня.

знаўцаў Сьвятога Пісьма сярод тагачасных усходнеславянскіх царкоўных пісьменьнікаў. Ня горш ён ведаў і грэцкіх айцоў царквы. Часамі нават маецца ўражаньне, што ягоныя казаньні належаць да сьвятаайцоўскай пары — так яны прасякнуты ейным духам — а не да 12-га стагодзьдзя. Асабліва вялікі ўплыў на станаўленьне стылю Кірыла мелі творы айцоў «залатой пары» — сьв. Рыгора Наз'янскага, Эпіфана Кіпрскага і ў асаблівасьці Яна Залатавуснага.[56] Гэты уплыў быў дадатні і дзякуючы яму Кірылу удалося пазьбегнуць у вялікай меры той штучнасьці і пышлівасьці, якая панавала ў сучаснай яму царкоўнай літаратуры.

Як прыклад красамоўнага мастацтва, казаньні Кірыла былі надзвычайным зьявішчам. Багацьце вобразаў і разнастайнасьць стылістычных хвормаў уносілі ў іх жыцьцё і трымалі зацікаўленьне слухачоў у сталым напружаньні. Мова казаньняў надзвычай багатая і адзначаецца меткасьцю параўнаньняў і прыкладаў. Усюды адчуваюцца, хоць у меншай меры, тыя высокія паэтычныя якасьці, што і ў малітвах. Авеяныя духам шчырай любові Бога, казаньні зусім справядліва здабылі іхняму аўтару славу другога Залатавуснага, «які больш за ўсіх зазьзяў на Русі».

*(Канец будзе)*

[56] Уплыў сьв. Яна Залатавуснага на сьв. Кірыла адчуваецца ня столькі ў перайманьні некаторых месцаў, сколькі у ўсіх характары творчасьці гэтага апошняга. Ваян слушна заўважыў, што Кірыл Тураўскі настолькі добра ведаў Яна Залатавуснага, што маецца цэлы час уражаньне, быццам ён пераймае ад яго даслоўна, у тым часе як ён толькі насьледуе ягоную манеру пісаньня. (гл. Vaillant, op. cit., p. 50).

## ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары «Божым Шляхам» у артыкуле «Сьвяты Кірыл Тураўскі» закралася памылка. На бач. 6 у верхнім радку, замест: Успамінаючы п р а в і н у Майсея — трэба чытаць: Успамінаючы п р а в і ц у Майсея. За гэтую памылку, якая зьмяняе сэнс тэксту, рэдакцыя перапрашае чытачоў.

*Пастар Ян Пятроўскі*

# У духу перажыванага часу

*Адзіная рэч, якое мы маем баяцца на гэтай плянэце — гэта чалавек.*

Карль Юнг
(швайцарскі псыхалёг)

«Рэфарматар», невялікі твор у форме дыялёгу, які друкаваўся ў трох сшытках «Божага Шляху» за 1965 год і які, праўдападобна, мае зьявіцца кніжыцаю, зьяўляецца адбіцьцём неспакойнага часу, перажываць які на долю нам выпала.

Аўтарам твору зьяўляецца ўжо ведамы нам з папярэдніх сваіх працаў, а. Я. Гэрмановіч.

У «Рэфарматары» сьціраюцца між сабою два пагляды: а. Андрэй з шырэйшым і больш адважным паглядам на сьвет — гэта прадстаўнік поступу, і а. Захар, які рэпрэзэнтуе сабою, тое, што ў нашых днях агульна прынята называць кансэрватызмам. Спробы супроцьстаўленьня двух паглядаў заўсёды прыцягваюць нашую ўвагу, дый фактычна кажная сьмерць старога і нараджэньне новага папярэджваецца параўнаньнем таёмнага зьявішча нараджэньня і сьмерці.

Часта здараецца, што вялікія рэчы маюць свой малы пачатак. Гэтак было на парозе 1945 г.

Тады, калі ў гэтым часе мы ўтоенна пацяшалі сябе думкаю, што набліжаецца канец ліхалецьця для шматлікіх мільёнаў людзей, не падазравалі мы, што ў заканчэньні гэтых цярпеньняў крыецца пачатак новае эры, спробу аналізы якой крые ў сабе «Рэфарматар».

Калі адгрымелі выбухі мадэрнае зброі і разьвеяўся дым пажарышчаў, нашаму ўзроку пачаў вырысоўвацца новы парадак, засягу і кансэквэнцыяў якога мы нават сягоньня ня можам яшчэ прадбачыць.

Мала па малу мы пачалі прывыкаць да зьявішча — нейкае супольнасьці веручых зь няверучымі.

Многія з нас, як і а. Захар, не зьяўляюцца ў стане агарнуць усяго таго, што творыцца навакол нас.

З другой стараны многае новае на сьвеце мела свой гэтакі самы парадак. Ці было гэта на г. зв. сьвятой зямлі ў часе Хрыста, ці пасьля Яго ў Рымскай імпэрыі, або ў часох сярэднявечча зь ягонымі срогасьцямі, рэнасан-

самі і рэфармацыямі, — усё спраўджалася тымі самымі ўнутранымі сутрасеньнямі і канфрантацыяй сьветапагляду, калі стары пагляд ня меў ніякае іншае магчымасьці, як толькі ўступіць перад надыходзячым новым.

Новасьць нашых дзён выводзіцца з факту, што сьвет хрысьціянскі не знайшоўся на адпаведным узроўні вырашэньня шматлікіх праблемаў, якія нарасталі ў працэсе агульнага поступу на Зямлі, запэўненьня свабоды сумленьня, мовы, свабоды кажнаму народу фармаваць сваю палітычную і культурную структуру паводля звычаяў і абычаяў, паводля волі дадзенага народу, элемэнтарнае справядлівасьці ў сфэры эканамічнага і сацыяльнага жыцьця . . .

Другі Ватыканскі Сабор з усімі ягонымі пастановамі, акцыя Праваслаўнае царквы, як і ўзмоцненая дзейнасьць пратэстантызму ў сфэры экумэнікі — зьяўляюцца пацьверджньнем пагляду, што сапраўды хрысьціянская царква ў сваей цэласьці згубіла кантакт з жыцьцём і, што цяперка найвышэйшы час вярнуць утрачаную нагоду. Але гэтая магчымасьць можа быць вернута цаною рэформаў і зьмены пагляду. І фактычна зьмены пагляду сягаюць гэтак далёка, што нават найболей адважныя з нас ня маюць уяўленьня, чым гэта можа скончыцца.

Зьмены пагляду распасьцерліся на шматлікія праявы нашага перакананьня.

Адна зь іх уваходзіць у сфэру пагляду на самога чалавека. Чалавек да нядаўна стаяў у арбіце хрысьціянскае ўвагі. Дзеля таго тварыліся Божыя і людзкія пляны і замеры. Для чалавека гэта пісаліся прынцыпы, правы, харты, канстытуцыі . . .

Але сягоньня прыходзіць навука з новаю пераацэнкаю вартасьцяў і заяўляе нам, што чалавек зьяўляецца нічым іншым, як зьвеньнем у ланцугу арганічнага сьвету. Праўда, чалавек вырозьнены шматлікімі прыкметамі, якія чыняць яго Чалавекам, але тым ня меней ён знаходзіцца ў ланцугу гэтага сьвету. Мала гэтага. Нас інфармуюць, што найбольшая небасьпека для чалавека крыецца ў самым чалавеку, у ягонай здольнасьці распаўсюджвацца. Гэта, кажуць нам, ёсьць эксплёзыя люднасьці. Факт гэты нясе з сабою зьявішча, дзе чалавек можа задушыцца ў сваей уласнай гушчыні. Калі мы хочам, каб нашым патомкам асталася нейкая прастора да жыцьця на гэтай плянэце, мы мусім перагледзець нашыя суадносіны да нас самых і ўчыніць усё, што зрабіць мы можам, каб абмежаваць нашую колькасьць. Калі мы гэтага ня зробім, нам кажуць, за 600 гадоў для кожнага жыхара на гэтай прыгожай зямлі астанецца ня болей, як адзін квадратны ярд плошчы. Рабеце нешта ў гэтым напрамку!

І цэрквы хочуць гэтае «нешта» рабіць. Каталіцкая царква, калі пішуцца гэтыя радкі, яшчэ не сказала афіцыяльна свайго апошняга слова адносна пытаньня «эксплёзыі людносьці». Але само жыцьцё дамагаецца гэтага і раней ці пазьней яно, здаецца, змусіць царкву падпарадкавацца няўхібнай, і з пункту гледжаньня маральнага, балючай канечнасьці. Многія з нас могуць уважаць гэта за канец сьвету, але мы ня былі пачынальнікамі яго і мы, праўдападобна, ня будзем ягоным заваршэньнем.

*

Ці «навука ашалела», трудна сказаць. Адно выдаецца быць пэўным, што навука ў нашых днях некаторымі людзьмі ўтоесамліваецца з паняцьцем тэалёгіі — гэтак, як разумелі яе да гэтага часу. Тое сягоньня ёсьць правільным, што за правільнае ўважае навука. Навука гаворыць моваю праўды, чуем мы і кажны навуковец — гэта чалавек праўды і праўдамоўнасьці і чэснасьці . . .

Асягненьні навукі маюць служыць пазнаньню праўды. Навука, кажуць нам, спрычыніцца да вызваленьня самога чалавека і стварэньня лепшых абставінаў жыцьця для яго.

Але гэта навука кажа нам, што побач існуючых законаў існуюць і выняткі, што кажная праблема мае свае плюсы і мінусы.

І тут мы зноў вяртаемся да тае самае старое праблемы вылушчэньня праўды, як сродка збаўлячага нас. Мы прыходзім да тых самых высноваў, якія змушаюць нас ставіць старое як сьвет пытаньне: «Што ёсьць праўда?»

Чалавек, навука, шалёнасьць? Ці гэта нейкія апрычоныя паняцьці, якія ўзаемна выключаюцца?

Мы ведаем чалавека. Часамі ён мае найлепшыя замеры быць добрым. Ён зьяўляецца ў стане зразумець, што можа быць ягонаю загубай. Але мы гэтаксама ведаем, што часткі награмаджанага аружжа ў ягоных арсэналах ён ня вельмі ахвочы выкінуць на сьметнік, але барджэй выкарыстаць з мэтаю, як ён кажа, каб пабольшыць стан свае маемасьці і палепшыць абставіны жыцьця.

Народы, як і адзінкі, маюць свае, г. зв. нацыянальныя амбіцыі. Гэтае зьявішча можа прывесьці які-небудзь народ да перакананьня, што, ці ня варта зарызыкаваць ужыцьце атамнага аружжа? Крыецца ў гэтым вялікая адказнасьць, але пэрспэктыва панаваньня над сьветам гэтаксама зьяўляецца ня меней спакушальнай. Гэта дае нам падставу быць пэсымістымі кажны раз, калі мы думаем пра навуковыя асягненьні, асабліва ў галіне тэхналягічнай і што можа стацца з

*Д-р Ч. С.*

# Сьвежая магіла – памёр а. Язэп Дашута

10 верасьня 1966 тэлеграма з Варшавы прынесла сумную вестку, што 9. IX. памёр а. ЯЗЭП ДАШУТА, сьвятар марыянін, беларус.

Язэп Дашута прыйшоў на сьвет у горадзе Саколка 2-га студня 1891 ад бацькоў Дамініка і Зузанны.

Чуючы ў сабе заклік да сьвятарства, скончыўшы сярэднюю асьвету, ўступіў у Вільні ў духоўную сэмінарыю і 26. V. 1918 г. быў высьвячаны летувіскім біскупам Францішкам Карэвічам у віленскім сэмінарскім касьцеле на сьвятара. Будучы некалькі гадоў сьвятаром, атрымаў дазвол ад віленскага біскупа Юрага Матулевіча на студыі ў унівэрсытэце ў Любліне, а ў 1925 г. ўступае ў Закон Айцоў Марыянаў у Друі.

Пад кіравецтвам а. Андрэя Цікоты прабывае Дашута свой год навіцыяту, пасьля высылаюць яго ў Рым для дапаўненьня студыяў у Царкоўным праве. Праз год пільнае працы ў Вечным Горадзе а. Дашута здабывае ступень доктара царкоўнага права, аднак — дзеля сваей вялікай скромнасьці — ніколі гэтым тытулам не падпісваецца, так што мала хто аб гэтым і ведаў!

Шчасьліва закончыўшы студыі ў лістападзе 1927 г., пакінуў Рым і праз Асыж, Флёрэнцыю і Вэнэцыю, вярнуўся ў Друю. Тут чакала яго цяжкая душпастырская праца вікарага, а пасьля пробашча. На самым пачатку піша а. Рэклайтісу ў Рым: «Душпастырскую працу люблю, але пры сяньняшніх адносінах суседніх сьвятароў да Друі, асабліва да яе пробашча, працаваць тут незаздросна. Накідаюцца на нас з усіх бакоў . . .»

І сапраўды цяжка сяньня нават уявіць, што тады ў каталіцкай (прынамсі з назову) польскай дзяржаве тварылася. Яе правадыры, не зважаючы на мільёны ўкраінцаў і беларусаў, жыдоў і інш., пастанавілі зрабіць Польшчу нацыянальным маналітам. Таму на г. зв. «крэсы» пасылалі сваіх асаднікаў, польскіх урадоўцаў, настаўнікаў, палітычных дзеячоў — і духавенства, якія не зналі ні нашых умоваў, ані турбаваліся паправіць долю жыхароў, абяднеўшых падчас вайны і рэвалюцыі.

Каталіцкае польскае і спольшчанае духавенства, на вялікі жаль і стыд, ішло рука ў руку з сваімі нацыяналістымі, каб зьнішчыць усякія праявы беларускае сьведамасьці . . .

Калі ў ва ўсей Заходняй Беларусі былі зьліквідаваныя беларускія школы, калі з касьцёлаў была выгнана беларуская мова, (у правасл. цэрквах палякі падтрымлівалі расейскую мову!), дык у Друі і яе ваколіцах, як на той абтоцы, гаварыліся яшчэ беларускіе казаньні і ў касьцеле. Такжа дзяцей вучылася элементарных праўдаў веры па беларуску.

Палякі вельмі хутка забыліся аб тым, як іх несправядліва мучылі і прасьледвалі ў царскай Расеі і Нямеччыне, дык цяпер пачалі тасаваць тыя самыя мэтады да безбаронных беларусаў — супраць прыродных і Божых законаў. Хоць марыяне ў Друі вялі польскую гімназію, хоць не займаліся палітыкай, але і на іх пасыпаліся даносы, націск паліцыі, авантуры ведамага скандаліста ксяндза Бародзіча, якога падтрымлівала паліцыя і духавенства. Усё гэта звалілася на галаву а. Цікоты, друйскага Супэрыёра і на а. Язэпа Дашуту, друйскага пробашча.

Асабліва павялічыўся цяжар жыцьця і працы друйскіх айцоў, калі іх грамадка зьменшылася: а. Фабіян Абрантовіч быў назначаны Апостальскім Пасадам у Харбін у 1928, а. Вэзп Гэрмановіч пасланы яму ў помач 1932 і а. А. Цікота ў 1933 — выбраны Генэралам айцоў Марыянаў — стала прабываў у Рыме

Наступ польскае адміністрацыі на Друю ўзрастаў і абвастраўся. Вось што піша а. Я. Дашута да свайго Генэрала (21. IX. 1937):

---

жыцьцём на зямлі, калі гэтыя асягненьні будуць уведзены ў акцыю.

Памылка з перад двадцацьцю гадамі ня можа быць паўторанай, калі хрысьціянскі сьвет, ідучы па лініі інэрцыі, пакінуў вырашэньне найважнейшых для нас пытаньняў у руках двух безадказных людзей: аднаго на Усходзе і другога на Захадзе. У рэзультаце гэтае памылкі было фізычна зьнішчана каля сарака мільёнаў людзей, безьліч акалечаных і ў груды абернутых местаў і мястэчак на эўрапэйскім кантынэнце.

«Рэфарматар» нагадвае нам сабою паняцьце рэформы, сутнасьць якое зьмяшчаецца ў праўдзе, што сьвет наш скурчыўся, што сталіся мы бліжэйшымі сабе суседзямі з аднолькавымі правамі і прывілегіямі да жыцьця, як і адказнасьцямі, якія выплываюць з гэтага палажэньня, што пульс жыцьця прысьпяшаецца, хутка па сабе наступаюць зьмены і што гэтыя зьмены дамагаюцца ад нас перагляду нашых сьветапаглядаў.

І тут царква знаходзіць для сябе найбольшае поле працы. Старыя мэтады мусяць быць закінутымі. Новы прынцып паступаньня, абапёрты на навуцы Нагорнае пропаведзі Хрыста, мае знайсьці сваё застасаваньне, каб — пры наяўнасьці прагрэсу і рэсурсаў матар'яльных на зямлі — наблізіць Царства Божае сярод людзей.

«Аж тут новая візыта. Зьяўляецца 17-га верасьня сам Начальнік Ваяводзкае Бясьпекі із Старое Вялейкі, нейкі Ясінскі і зь ім Стараста і хочуць бачыць а. Супэрыёра і мяне. Вострым тонам, сказаўшы, хто ён такі, заявіў, што хоча з намі «шчыра», але прыватна» разгаварыцца аб нашых адносінах да дзяржавы. Пачаў гаварыць аб беларускай гімназіі ў Вільні, («скамунізаванай»), аб кс. Ад. Станкевічу, аб кс. В. Гадлеўскім і аб нас, што і мы ідзём на ўсход да камуны. На гэта польскі ўрад не пазволіць ... Хто нездаволены, то яны (палякі) памогуць прабрацца ў Саветы. «Беларусаў там павыстрэлівалі, а тут вам кепска? Прыдзецца двух-трох ксяндзоў з Друі вывезьці. Вы — прыхільнікі Уніі? На ніякія вуніі не пазволім. Возьмемся і за Альбэртын! ...»

Гэты самы начальнік Бясьпекі пачаў хадзіць па ўсім манастыры. Спаткаўшы хлапцоў, пытаў, на якой мове яны моляцца? На якой мове вядуцца лекцыі ў гімназіі і г. д.

«Запытаў я старасту — піша далей а. Дашута — дзе болей камуністаў, ці ў нашай парахвіі, ці ў суседаў? А ў Начальніка Бясьпекі: ці гаварыць нам ксяндзам па беларуску да беларусаў, якія да нас у гэтай мове зьвяртаюцца, ці гэта ёсьць ужо здрада стану?»

У гэтакіх абставінах працы нічога іншага не аставалася, як здацца на Божую волю і рабіць далей, што магчыма. Як добры сьвятар і манах а. Дашута так і рабіў.

«Што з намі будзе, Бог ведае, на Яго пакладаем усю надзею», гэтак пісаў ён а. Генэралу Цікоце.

Ці-ж ня гэтак бывала ў нас на Беларусі, калі ў летні гарачы дзень касцы, прадбачваючы буру, яшчэ шчырэй і пільней махаюць косамі? Гэтак і друйскія законнікі. Дашута арганізуе камітэт дзеля зборкі грошаў на новыя арганы. А мелі каштаваць 18 тысяч польскіх злотых. Вялізная сума на ня дужа багатую парахвію! Таксама жадае збудаваць новы прытулак для старцаў і ўдоваў: зьвяртаецца да а. Цікоты за парадай. Але каб прыгожы друйскі касьцёл, які быў ужо запушчаны, пасаваў да новых арганаў, трэба было пільна і яго абнавіць ...

І вось у пачатку чэрвеня 1938 г. паліцыя даручыла друйскім айцом Марыянам Язэпу Дашуце, К. Смульку, В. Хамёнку і Ю. Кашыру падпісаны Віленскім ваяводам Бацянскім прыказ — выехаць з пагранічнае паласы, (да якой належыла Друя), да 10-га жніўня. Ніякіх прычын выясьненьня ў прысланым дакуманце ня было.

9-га чэрвеня 1938-га году ціха і бязшумна айцы Марыяне беларусы пакінулі Друю і затрымаліся ў сп. Гузэ, ў маемасьці Канстантынова: там добрыя людзі ласкава прынялі нашых айцоў. Зара а. Хамёнак пераехаў у Малькоўшчыну, якую заўсёды абслугоўваў і якая належыла да Друйскай парахвіі, маючы свой філіяльны касьцёл.

Калі надыйшлі важныя сьвяткі Сьв. Антоняга, Сьвятое Тройцы і Зялёныя Сьвяткі і калі ўвесь народ вельмі сумаваў у Друі, нашыя айцы без дазволу самі вярнуліся ў Друю і зара паведамілі пісьмова вышэйшыя ўлады, што добравольна із Друі ня выедуць! Тады 23-га чэрвеня 1938 г. паліцыя акружыла друйскі манастыр і гвалтам айцы былі прымушаны сесьці ў машыны, якія іх вывезьлі за 10 кілям. ад Друі і выгрузілі на поле.

Тады а. Я. Дашута выехаў у марыянскі польскі манастыр у г. Скужэц каля Седлец. У ягоным жыцьці пачаўся новы пэрыяд: выконвае абавязкі душпастыра ў польскіх дамох — у Скурцы, у Грудзіодзу, у Влоцлаўку. Усюды ён астаецца тымсамым шчырым беларусам, які ўсюды прызнаваўся да сваей бацькаўшчыны, падтрымліваў жывыя зносіны з суродзічамі — ці пры спатканьні, ці ў лістох. Як законнік Дашута заўсёды быў беззаганным — працавітым да зьнемажэньня і шчырым як дзіця.

У Польшчы перажывае вайну. Пры першай магчымасьці стараецца навязаць зносіны з сваімі субратамі. Да апошніх дзён перапісваўся зь беларускім марыянскім цэнтрам у Лёндане і зь беларускім Біскупам.

13 ліпня 1966 г. пісаў Біскупу Сіповічу:

«Заўсёды малюся за Цябе, а тымбольш ахвярую ўсе свае малітвы і цярпеньні ў дзень Твайго Патрона, каб Бог багаславіў усім Тваім пачынаньням у працы на карысьць Касьцёла і ўсяго Закону ў духу саборнага аднаўленьня і дасасаваньня да сяньняшніх вымогаў і часу. Нашая Бацькаўшчына ўсё болей і болей пазбаўляецца пастыраў і ў прышласьці чакае там вялікая работа».

«Ад прошлага году моцна мяне сьціснула вянцовая хвароба, а ўжо ад палавіны студзеня трымаюся ложка і не магу выхіліцца з дому. Надта мяне мучыць задуха і ў ночы не дае заснуць. Надзеюся, што сёлета Бог мяне забярэць да нашых Айцоў ...»

У адказ на гэты ліст а. Дашута атрымаў прывітаньні і найлепшыя пажаданьні ад беларускіх сьвятароў з Англіі. Быў ён гэтым вельмі ўсхваляваны. На месяц перад сваею сьмерцьцю, якой чакаў сьведама і з поўным супакоем духа, пісаў:

«Дзякую за пісьмо і весткі ... Мае гадзіны палічаны. Сяньня-заўтра перайду да нашых Айцоў. Зь вялікім трудом пішу да Вас апошняе пісьмо ... Хай Бог багаславіць Вашу пастырскую працу для нашага народу і Касьцёла. Помніце ў малітвах аб маей грэшнай душы».

У сваей сьціпласьці а. Дашута падпісаўся: «Ваш пакорны сын» і гэта былі апошнія словы, якія даляцелі да нас у вольны сьвет.

Атрымаў ён у цяжкой хваробе яшчэ адну вялікую пацеху — багаславенства Айца Сьв. Паўла VI-га.

*а. Я. Гэрмановіч*

# Мае прыяцелі — а. Казімір Смулька

Смулька, аб якім мы ў Нэкралёгу ўспаміналі (№ 6 (93), 1965), чалавек найменш у беларускім сьвеце ведамы — дзеля свайго стану здароўя, бо нікуды з манастыра не запускаўся, меў аднак немалыя заслугі і вартасьці, зашто справядліва трэба яго ўганараваць хоць гэтым добрым словам у нашых успамінах.

Пазнаёміўся я зь ім у 1924. Сытуацыя яго ў кляштары і ў сьвеце была вельмі незавідная. Чалавек фізычна здаровы, моцны, энэргічны, із здаровым, як кажуць, «гаспадарскім розумам», выдатнай памяцьцю і моцнай воляй, а прытым дасьціпны, быў — праз выпадковыя дэфэкты здароўя — прысуджаны сядзець на месцы бяз ніякага занятку!..

А здарылася так: ратуючыся ад аднэй бяды, ўваліўся ў другія.

Будучы клерыкам пецярбурскае духоўнае сэмінарыі, праводзіў вакацыі 1915 г. ў сваіх родных, у вёсцы Прудннікі Друйскае парахвіі і там падпаў пад мабілізацыю падчас вайны Расеі зь немцамі. Задумаў «выкруціцца»: схавалі яго родныя перш на падстрэшы, а пасьля ў гумне, ў тарпе сена. Афіцыяльна аднак ён на вайну «пайшоў» і пісаў лісты з Каўказкага фронту, а пасьля там негдзе «загінуў». Такія весткі мела аб ім вёска Пруднікі. Паліцыя пільна наглядала і шукала яго, як дэзэртэра, але надарэмна!

Так прайшло да рэвалюцыі ў Расеі. Тымчасам Смулька ў сваім схове чытаў бязупынна кніжкі, якія яму прыносілі з Друі. І вось нарэшце выйшаў із схову жывы і цэлы, але... з «курынай сьлепатою»: як вечарэе, Смулька робіцца абсалютна сьляпы! Пры лямпе бачыць добра, але ў прыцемках — нічога! І гэта гора яго мучыла ўсё далейшае жыцьцё. Чытаць мог толькі пакрысе.

Мала таго, набыў падучую хваробу. З гэтае, на шчасьце, далося падлячыцца: загадалі дактары адмовіцца ад солі і трымаць на прывязі свае нэрвы; а нэрвы меў вельмі тонкія. Аднак, ратуючыся ў такім падвойным няшчасьці, Смулка здолеў апанаваць нэрвовае ўзрушэньне і супакоіць сябе цалкам. На гэта трэба было ўлажыць немалую духовую працу над сабою і вытрывала змагацца з сабою аж да самай сьмерці. Ён зьмеркаваў, што сам няздолее апанаваць свой тэмпэрамант, што трэба помачы іншай і пачаў шукаць яе ў Госпада Бога: тады зь бяды-гора і з глыбокага праканананьня ўцягнуўся ў малітву. Зь бегам часу так прывык да малітвы, што стала яму сапраўднай пацехай і падмогаю ў звычайным жыцьці і ў цяжкіх перажываньнях, як убачым далей.

*

Пасьля 1917 году, калі яшчэ вайна і рэвалюцыя трывала на беларускіх землях, Смулька пранік да Вільні ў духоўную сэмінарыю. Калі-ж Вільня падпадала ў рукі бальшавікоў, яму ўдалося перабрацца ў польскі горад Влоцлавэк і там скончыць духоўную сэмінарыю. Тымчасам Вільня трапіла пад польскую акупацыю. І вось наш Смулька, давяршыўшы курс духоўнай навукі, ня мог атрымаць сьвячаняў, але не хацеў вяртацца ў стан сьвецкі. Чакаў... у духоўнай адзежы, але не маючы ні занятку, ні надзеі на духоўнае становішча. Так прыйшоў у Друю да а. Андрэя Цікоты, які залажыў там кляштар аа. Марыянаў і першага прыняў туды Казіміра Смульку. Значыць, не дарма ён пасьля хваліўся: «Не я прыйшоў у кляштар, але кляштар прыйшоў да мяне!»

---

Памёр у Варшаве 9-га верасьня: быў прывезены ў апошніх днях хваробы з гор. Влоцлавка.

Калі мы яшчэ акінем позіркам асобу а. Дашуты і яго дзейнасьць, дык пад скромным выглядам сьвятара-законніка ўбачым сапраўды вялікага чалавека. — Добра адукаваны і адзіны сярод беларускіх сьвятароў меў тытул доктара царкоўнага права. Знаў добра царкоўны грэгорыянскі сьпеў. Зь любоўю займаўся і знаўся на мэханіцы і быў здольным фотоаматарам. З натуры быў вельмі адважны: мог свабодна хадзіць па высокіх дахах і чысьціў недаступныя мейсцы ў касьцёлах.

А быў чалавек крыштальна чыстае душы. Часамі нерашучы, марудзіў у выкананьні сваіх плянаў, але вечна быў заняты. Калі аднак трэ было зрабіць штосьці добрае для людзкой душы, Дашута гатовы быў на ўсё, каб памагчы чалавеку-бліжняму. Быў такжа, як мала каму ўдаецца, прыгатаваны да пераходу да лепшага жыцьця. Калі ён кажа ў лісьце, што хутка мае адыйсьці да сваіх Айцоў, дык бяз сумніву трэба разумець тых, зь якімі разам працаваў і цярпеў — гэта вялікія нашыя мучанікі за веру — Абрантовіч, Цікота, Лешчэвіч і Кашыра. А магчыма, як Марыянін, мог думаць і аб спатканьні з Біск. Юрым Матулевічам, Бучысам і з іншымі выдатнымі Марыянамі.

Піша гэтыя сьціплыя радкі той, хто добра знаў айца Дашуту, кахаў яго і таму пасьвячае гэтыя словы шчырае любові яго сьветлай памяці.

Цяпер узьнікла пытаньне, як давесьці Смулку да сьвятарства? Ужо аднак палажэньне клерыка было іншае: ён быў пад апекаю энэргічнага а. Цікоты, які праз Ватыкан дастаў яму дазвол, праўда, варункковы. У дакрэце было сказана: «Калі хвароба падучкі не паўторыцца, можна пасьвяціць на дыякана». Такое пазваленьне было надта небясьпечным, бо нэрвы ўвесь час былі нацягнуты, што хвароба можа паўтарыцца. Але Смулька патрапіў праканаць сябе і супакоіць так, што выпадкаў ня было.

Тады прыйшло далейшае пазваленьне: «Калі ня будзе выпадкаў, дык можна сьвяціць на сьвятара». Але ператрымалі яго дыяканам тры гады. Нарэшце 19. XII. 1926 г. Смулька быў пасьвячаны і назначаны маім вікарым у Друі.

Гэта была вялікая перамога і нагарода чалавеку за вытрываласьць і цярплівасьць. Ён стаў патрэбным і карысным працаўніком у касьцеле і ў парахвіі. Толькі-ж у законах стараюцца знайсьці кожнаму нейкую спэцыяльнасьць і Смульку накіравалі на працу пры гаспадарцы — земляробстве — эканоміі.

Стаяў ён пры гэтым варштаце 22 гады. Перашкодаў у ягонай гаспадарцы не бракавала, а найгорш дапякала безграшоўе. Гаспадарка павінна была разьвівацца без грошаў — бяз укладу, дый пракарміць кляштар, інтэрнат хлапцоў (да 20-ці), ды яшчэ памагаць гімназіі, ды сама купляць інвэнтар, каней, словам, усё неабходнае. А прадаваць спачатку ня было чаго.

Фальварак бяз будынкаў лежаў паўзапушчаны за дьве вярсты ад Друі, гэктараў каля 60-ці. Зараслі, што называліся лесам, займалі большую частку грунту. Колькі трэ было развагі, сілы волі і энэргіі!

А. Смулька меў ясны плян працы, што кляшторная гаспадарка мусіць стаць прыкладам для ўсей акругі. І ён меў да гэтага адпаведныя магчымасьці ў сваім характары і ў сваёй падрыхтоўцы. Трэба ведаць, што ў паўночнай Беларусі — дзеля блізкасьці Балтыцкага мора, клімат вельмі капрысны, а якраз зямля пры гліне вельмі баіцца трывалай сушы і доўгай макраты, — дык тут трэба мець свой барамэтр у душы і трапляць у пару з сяўбой і ўборкай збожжа і гародніны.

А а. Смулька, чалавек мясцовага паходжаньня, знаў наскрозь усе завіліны тутэйшага клімату і грунту, а да таго ўмеў датасаваць тэорыю да практыкі, каб не загінулі пасевы ў трывалай сушы, або макраце, ці ў глыбокіх сьнягох, або адлігах і падмарозках. Аж людзі дзівам-дзівіліся, што кляштару памагае больш, ці дасужасьць а. Смулькі, ці малітвы законнікаў? Бо заўсёды кляштар меў добрыя ўраджаі ў самыя найгоршыя гады: у кляштары расло самае гатунковае збожжа, пасьвілася найбольш удойнае быдла, тучыліся найсыцейшыя сьвіньні, несьліся расовыя куры і гэтак усё. (Адзін кабан дайшоў да 24 пудоў вагі!).

У 1937 г. я, пасьля даўжэйшага перарыву, прыехаў на лета ў Друю. Смулька павёў мяне ў Забароўшчыну паказаць ураджаі. «Вось, кажа, лапіна пшаніцы. Я, кажа, лічыў, што дасьць 600 пудоў, але зімою вымерзла, дык будзе ледзь можа 200 пудоў». — Кажу: «Шкада, што такая няўдача!»

Пасьля 2 тыдняў зноў мы там. Ён кажа: «А ведаеш? Папраўляецца пшаніца! Пусьціла багатыя атожылкі, дык будзе бадай 400 п.! Я падзівіўся. А перад ад'ездам з Друі я зноў быў зь ім тамака і ён мне кажа: «Я тады не ўгадаў: цяпер бачу, што будзе тут тых самых 600 пудоў!

а. Казімір з самае прыроды быў беларусам — і з паходжаньня і з праканаць: яго ніколі ніхто ня ўсьведамляў, самацёкам расло ў ім захапленьне і любоў да ўсяго роднага. Прайшоўшы праз расейскія школы і спольшчаныя сэмінарыі, ён ня меў аказіі вывучыцца беларускай літаратурнай мовы і пісьма, гаварыў толькі сваёй Прудніцкай вясковай моваю. Дзеля слабасьці вачэй ня мог чытаць беларускіх твораў, ды іх і мала спатыкалася ў час рэвалюцыі. Практычна аднак у кляштары ўжывалася толькі беларуская мова і ўсе мы цікавіліся беларускімі падзеямі. Навукі ў касьцеле ў Друі гаварыліся папольску і пабеларуску. А. Смулька ў сваю калейку заўсёды прамаўляў у роднай мове, а людзі яго ахвотна слухалі. У гэтым замыкалася ўся яго нацыянальная акцыя. Пры гаспадарцы і грамадзтве беларуская мова была ў яго такой звычайнай справай, як паветра, вада, будні хлеб. Калі гэта можна назваць «палітыкай», дык Смулька такім «палітыкам» быў заўсёды і нітрошкі больш. Аднак за гэтае самае ён трапіў пад бiч урадовай высокай польскай палітыкі і ў 1938 быў вывезены паліцыяй разам з другімі айцамі і клерыкамі з друйскага клаштару за 10 кілямэтраў і выкінены на поле ля вёскі Малькоўшчыны. Тады гэтым актам быў разьбіты беларускі кляштар у Друі, які існаваў ад 1923 году. Таксама быў разагнаны кляштар наш у Вільні, а супэрыёр і клерыкі перанесены ў Варшаву. Праўда, за год пасьля таго тыясамыя, што выкідалі беларусаў, самі ўцякалі зь Беларусі — у вайне зь немцамі і бальшавікамі. Тады законная ўлада аа. Марыянаў пасяліла а. Каз. Смульку ў кляштары да палякаў, у м-ка Скужэц, у 10-ці кілямэтрах ад Седлец. Там ён прабыў, за выняткам пары гадоў, аж да сваёй сьмерці ў кастр. 1965. І

там, як выгнанец, памёр, як ахвяра дзіўнае палітыкі. I ў Скурцу пахаваны.

У Скурцу а. Казіміру таксама даверылі гаспадарку кляштару. Варункі працы земляроба там зусім іншыя: зямля — польскія пяскі, а клімат больш сталы і ў сухое лета вялізная небасьпека для збажоў.

Калі я прыбыў, пасьля доўгага перарыву (10 г. — у Манджурыі і $6^1/_2$ гадоў у Савецкай няволі), то знайшоў а. Смульку ўжо поўным інвалідам і нявідушчым. Расказвалі мне, што гаспадарку вёў а. Смулька, пакуль бачыў, гадоў дзесяць выдатна добра і карысна. Але бачыў усё горш і прыйшлося даць яму адпачынак. Яшчэ некалькі часу — ужо паўсьляпы — займаўся толькі гародніцтвам і статкам.

Сад ля кляштару вялікі — я ўжо сам бачыў — увесь быў адмалоджаны: рос бодра і прыгожа. Самыя яблыні і грушы плянова падабраныя паводле найлепшых гатункаў. Некалькі разоў а. Казімір вадзіў мяне па садзе і паказываў свае ўлюблёныя дрэўцы, апісываючы іх гануткі, смак і розныя поры іх дасьпяваньня, а такжа мясцовыя і лацінскія іх назовы. А быў-жа Смулька ўжо ад некалькі гадоў поўным нявідушчым! Ён нігдзе не патрабаваў праваднікоў.

«У мяне, казаў ён, сад павінен быць расплянаваны так, каб мець фрукты зь яго круглы год — да самых новых. I так яны раскладаюцца ў нашых складах і скляпох: кожны месяц мы пераходзім да іншага гатунку, які ідзе на стол. У гэтым і здароўе і прысмак!»

У 1959 г., калі я меўся выяжджаць з Польшчы, я апошні раз наведаў і гаманіў з а. Казімірам. Ён быў тады перанесены ў Каліварыю, а там сад яшчэ большы як у Скурцу, толькі неўпарадкаваны. I вось што я ўбачыў: Сядзіць а. Смулька на крэсьле на аднэй дарожцы і паказвае работнікам на дрэвы таго раду і кажа: «Першае дрэўца мы перасадзім вунь туды, другое трэба агледзіць, а трэйцяе зусім выкінуць. Але гэтага я сваім адумам зрабіць не магу: мы запытаемся а. Супэрыёра». Я ціхонька падыходжу, слухаю і здумеўся: а. Смулька абсалютна нічога не бачыць, а камандуе і то — ў чужым садзе, дзе ён перш можа калі і быў, а сад вялізны!.. Можаце, Чытачы, мне ня верыць, але (каб я жыў!) не махлюю.

I выбачце, забыўся сказаць! У 1955 ў Скурцу сьляпы Смулька павёў мяне у кароўнік і паказаў каровы, тлумачачы іх гатунак і характар; а пасьля перайшлі праз вуліцу на другі бок у кляштар законніцаў (ён мяне вёў, бо я там перш ня быў) і там таксама завёў у іхны кароўнік і таксама ўсё тлумачыў.

А як пачынаў сьлепнуць у Скурцу, дык тады яшчэ адпраўляў імшу ў касьцеле: імша была спэцыяльная для сьляпых, якія адпраўляюць яе напамяць. Нядзелямі пасьля кажнай імшы гаворыцца навука, але перш чытаецца Эвангельле. I а. Смулька таксама браў кніжку ў рукі і чытаў. Толькі перад імшой прасіў клерыкаў: «Прачытайце мне Эвангельле»! I ў касьцеле браў кніжку і чытаў людзям — ўсёраўна ці кніжка была ў парадку, ці перавернута, ён чытаў даслоўна як было ў кніжцы, хоць была адчыненая ў другім месцы.

Такія факты сьведчаць, якая была памяць і наагул здольнасьці гэтага незвычайнага чалавека! Якая страта, што ён ня мог студыяваць і працаваць навукова!

а. Смулька выцярпеў і вымаліў у Госпада Бога за сябе і за нас манахаў і за нашую беларускую справу — вельмі шмат ласкаў. Я сам дзівіўся перад ім, пытаючы: «Як ты молішся ўсё з памяці?» Ён кажа: «Што-ж, адмаўляю мусіць з пятнаццаць ражанцаў надзень». — А за каго ты так молішся? Кажа: Усякія інтэнцыі перабіраю.

Я і падумаў: Божачка, я не магу аднаго ражанца ўважна адмовіць, а ён . . . Кажу яму: — Ты маеш такую веру: памаліўся-б да якога сьвятога, дык ён табе вярнуў-бы вочы. А Смулька мне адказаў: — А хто можа заручыцца, што я, калі нанава буду бачыць, стану тады лепшым?

Гэтыя яго словы мне моцна ўразіліся ў душу — не магу іх забыцца.

I яшчэ адно: Смулька, праводзячы час цэлымі днямі сам адзін, ніколі ня нудзіўся: заўсёды пагодны і вясёлы. Пры спатканьні гаварыў шмат і меў што сказаць: ня пустое, але цікавае, прыемнае і жывое. Значыць, думаў ён таксама не дарэмшчыну. На ім спаўнялася тое, што я калісьці ад кагосьці чуў, што Бог «скарочвае час добраму чалавеку, каторы жыве Богам». Значыць, калі хто нудзіцца, дык няхай лепш праэгзамінуе сам сябе, бо пэўна сам у тым вінаваты.

Такі быў Смулька. Дай, яму, Божа, вечны адпачынак! ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

*Я. Савіцкі*

# Экумэнічны рух

I. Што гэта такое — «Экуменічны Рух», нашым чытачом мусіць быць дастаткова ведама: гэта ёсьць сусьветнае дзеяньне ў справе злучэньня Цэркваў. Найперш аб злучэньні паклапаціліся *пратэстанты:* праўда, ім і выпадала першым аб гэтым падумаць, бо пратэстанскія Цэрквы разьбіліся на дзесяткі частак (кажуць, што да двухсот!), асабліва ў Амэрыцы.

Адным з першых апосталаў Экумэнічнага Руху быў *Др. Віссэрт Гоофт,* ведамы пратэстанскі вучоны, пісьменьнік і арганізатар. Нарадзіўся ў Гаарлем у Галяндыі 1900 г. Працаваў у Злучаных Штатах Амэрыкі ў Фэдэрацыі хрысьціянскіх Студэнтаў. У 1932 г. стаў генэральным Сакратаром гэтае Фэдэрацыі.

Ужо з маладых гадоў В. Гоофт праняўся ідэяй злучэньня Цэркваў і ўсюды прапагаваў сваю сьвятую думку. І вось у 1938 г. невялікая група людзей гарачага сэрца зарганізавала *«Раду Цэркваў»:* праўда, быў толькі паложаны першы камень, — нясьмелая спроба. Аднак ад пачатку іх ідэя захапіла нямала піянэраў, пераважна маладых студэнтаў, — аж дайшло да таго, што можна было склікаць у Амстэрдаме першую Канфэрэнцыю 1948 г.

Ня дзіўна, што Др. Віссэр Гоофт ад 1932 году быў выбраны генэральным сакратаром Экумэнічнае Рады Цэркваў і на гэтым адказным становішчы ён нястомна працуе да гэтага часу. І адразу Рада Цэркваў старалася агарнуць усіх пратэстантаў на ўсіх кантынэнтах і сапраўды сталася міжнароднай.

Хоць «Экумэнічны Рух» абыймаў спачатку вылучна пратэстантаў і англіканаў, аднак піянэры Руху заклікалі праваслаўных і каталікоў. Характэрна, што толькі ў 1961-ым г. Праваслаўная Царква Савецкага Саюзу, Румуніі, Баўгарыі і Югаславіі згадзіліся ўступіць у Экумэнічную Раду Цэркваў.

А Каталіцкая Царква толькі ад часоў Папы Яна XXIII-га прыймае ўдзел у Руху і ад часоў II-га Ватыканскага Сабору пасылае на Канфэрэнцыі *абсэрватараў.*

Калі пачынаўся Ватык. Сабор, Каталіцкая Царква пасылала запросіны да пратэстантаў прысылаць сваіх абсэрватараў. Гэта спачатку зьдзівіла і вызвала ў некаторых моцны адпор. Аднак група Экумэнічнага Руху, пад уплывам Др. Гоофта, дала згоду.

Нельга сумневацца, што акцыя Экумэнічнае Рады Цэркваў мела ўплыў і на Царкву Праваслаўную, якая на III-ю і IV-ую Сэсію Ватык. Сабору пачала пасылаць абсэрватараў: так мы бачылі у Сьв. Пятра абсэрватараў правасл. із Савецкага Саюзу, такжа із эміграцыі і ад так наз. «сатэлітаў».

*

Гоофт мае асаблівы дар выясьняць даступна самыя трудныя праблемы і рабіць сьмелыя крокі наперад. Ягоная магутная вера ў Царкву і ў яе місію, а такжа непахібная надзея ў Хрысьце напаўняе нас зьдзіўленьнем. Ён рашуча парушае рэлігійныя праблемы ў цяперашнім спаганелым сьвеце і ў гэтым кірунку працуе нястомна, каб — праз лучнасьць хрысьціянаў — пры-блізіць Божае Валадарства.

II. *Новы пэрыяд.* Усе вялікія Цэрквы ўчасьнічаюць у *дыялёгу.* Да спрыяючых абставінаў Экумэнічнага Руху трэба залічыць палітычную незалежнасьць новых дзяржаваў Азіі і Афрыкі. Рэлігійныя справы хрысьціянства ў такіх дзяржавах пераходзяць паволі ў веданьне самых аўтохтонаў.

Такім спосабам Экумэнічны Рух стаў цалком міжнароднай рэлігійнай арганізацыяй, у якой роўнае права маюць усе народы — бяз ценя дыскрымінацыі.

І вось, спатыкаючыся, людзі розных поглядаў і Цэркваў прыходзяць да зразуменьня, што лучнасьць рэлігійна-царкоўная ёсьць усім *патрэбная, карысная* і *канечная.*

А найперш трэба *пазнаёміцца* — прыгледзіцца і прыслухацца наўзаем адны з другімі. І нават першае збліжэньне паказала, што можна ад другіх навучыцца шмат прыгожага і добрага. Пазналі, што трэба шмат чаго перадумаць і перамяніць у сябе.

Далей, трэба *ўвайсьці ў дыялёг:* значыць, патрэбна дыскусія, перасьцярога, братэрская рада і помач і падтрымка . . .

Ці гэта ўжо ўсё? — О, не! — Гасподзь маліўся не аб тое, каб людзі гаманілі з сабою, але «каб былі *адно»!* Значыць, канчатковая мэта «Экумэнічнага Руху» ёсьць поўнае злучэньне Цэркваў. Да гэтага, праўда, яшчэ далёка, але ня трэба траціць надзеі і трэба імкнуцца ўсей сілаю надзеяю і малітваю!

Ці магчыма радавацца з сябе? Не! — Праўда, вялікае шчасьце, што мы ўвайшлі на добры шлях — да злучэньня. Але мы павінны былі гэта зрабіць даўно! Нам надта прыкра і стыдна.

## *З лістоў у рэдакцыю*

# Скок праз Ля Манш

З Парыжа да Лёндану якбы рукой падаць! Усяго 380 км. А выбрацца было гэтак цяжка. А мы-ж ужо больш за 20 гадоў тут. Былі перашкоды: то езьдзіць не дазвалялі, то мы будаваліся, дзяцей вучылі, грошай нехапала, а ўрэшце змарыліся ўсім гэтым... але сёлета неяк адважыліся. Праўда, трэба казаць у адзіночным ліку, бо жонка і гэтым разам упіралася.

У гэтай частцы сьвету і пагода мае вялікае значэньне: добрая пагода — рэдкі госьць. У ночы перад нашым выездам так уліло, што на бальконе нашае камянічкі сабралася блізка 100 мм вады. Што будзе, то будзе, але паедзем!

Каля дзесятай пачало праясьняцца, а пакуль ад'яжджаць засвяціла як трэба.

Хоць штодзённая язда да працы мне ўжо абрыдла, усё-ж пэрспэктыва дальшага падарожжа ў няведамы край падбадзёрыла. Кажу мы, бо і жонка наракае: а навошта? а пашто?...

У цягніку людзей няшмат. Абапал быццам у тэлевізіі бягуць краявіды. Жыльлёвыя блёкі пераплятаюцца з даўнейшымі сёламі домікаў з садамі. Пасьля блёкі становяцца радзейшымі, сёлы таксама, а іх месца займаюць штораз мяняючы коляр палеткі пшаніцы, ярыны, люцэрны, буракоў... Край фалісты быццам наша Меншчына і цягнік то хаваецца ў выкапе, то выбягае на насып адчыняючы гарызонты далёка, далёка! Едзем проста на поўнач і міжволі думкі лятуць на ўсход — туды, дзе пакутуе родны край.

Цягнік затрымаўся толькі раз, у Ам'ен. Тут узгоркі адступаюць далей ад чыгункі. Уехалі ў даліну рэчкі Сомм. Край зялёны быццам Беларусь, толькі замест хвойнікаў дубнякі і акацыі.

Чыгунка бяжыць уздоўж рэчкі. Часамі здаецца, што праяжджаем праз Палесьсе. Ёсьць і балоты, пакрытыя ачаротамі, алешнікі. Перад вокнамі мінаюць вёскі, але французскія, мураваныя: яны нам прыпамінаюць, што мы на чужыне.

Праяжджаем горад Аббэвіль. Мора не бачым, але ланцуг пясочных узгоркаў-дзюнаў сьведчыў аб блізкасьці яго. Гэта абшары заўзятых баёў з 1914—1918 гадоў.

Так пад'яжджаем да Булоні. Запах рыбы ды салёны смак сьведчаць, што мы ўжо блізка порту. На прыбярэжных узгорках разлажыўся горад із сваею капулястаю катэдраю. Сьляды ваенных зьнішчэньняў відаць вельмі выразна. Гэта рыбалоўны порт Францыі з 45-мі тысячамі насельніцтва. І тут Напалеон І падрыхтаваў у 1805 высадку ў Англію, але неўдача ў іншых частках фронту не дазволіла яму яе рэалізаваць.

Тут пераходзім кантролю пашпартоў і мыта і — на вадаплаў. Пагода цудоўная! Выходзім на памост, каб лепш агледзіць навакольле, берагі, а перадусім гэты слаўны Канал, які так уеўся ў косьці тым, хто яго праеждажаў з марскою хваробаю, але мы шчасьліва трапілі на спакойнае мора і гэтай прыемнасьці не дасьведчылі.

Язда морам займае паўтары гадзіны. Шукаем якога седала. Нарэшце жонка ўціснулася між нечымі чамаданамі, а мне не давялося пасядзець. Хутка ля мяне знайшоўся чалавек пачала завязвацца гутарка: я па французску, ён па гішпанску. Ня клеіцца! Прыгледзіўся я, заўважыў нешта сэміцкае і ў нас пачалася гутарка па расейску. Аказваецца, што ён зь Берасьця. Пакінуў Беларусь у 1924 і выехаў у Аргентыну, дзе меў фабрыку абуткy. Ягоная жонка румунская жыдоўка з Бэсарабіі. Прадалі фабрыку і пусьціліся на зьведваньне сьвету. Былі ў Італіі, Нямеччыне, Даніі, Швэцыі, Нарвэгіі ды Францыі. Едуць у Англію, скуль маюць ехаць у Партугалію і Гішпанію. Можна пазайздросьць такога падарожжа! — Нават і ня думалася нам, што на сьвеце, які-б ён ня быў вялікі, напаткаем некага з нашага краю. Шкода толькі людзі часта ня сьведамыя таго, што яны зь беларускага краю, а не з Расеі ці з Польшчы.

Вось мы ўжо і на брытанскім абтоку! Кантроля пашпартоў і багажу. Сядаем у цягнік, які нам выдаўся шмат скрамнейшым за францускі. Вагоны хоць мягкія, але значна меншыя. Англія нас прыняла сумна, а нават расплакалася. Але гэты плач аказаўся няшчырым, бо ўвесь наш час трывала добрая пагода, што нам дазволіла ня толькі адчуць прыемнасьць турыстых, але і нарабіць шмат прыгожых здымак.

Праяжджаем Княства Кенту, найпладнейшую частку Англіі. Тут як у Францыі багатыя палеткі збажыны, сенакосаў і пераплятаюцца плянтацыі хмелю, фруктовыя сады і (дзіўна!) гурты авечак. Мусіць гэта асаблівая раса авечак? але ўсё-ж... мне здавалася, што воўну лягчэй прывозіць акіянамі чым мяса, масла ды яйкі. Але няхай сабе! Нас і тут мінаюць сёлы, але ня то што французскія, а хутчэй падобныя да бэльгійскіх: дамы аднолькавай формы — бяз пэрсональнасьці. Магчыма, дзякуючы дажджыстай пагодзе край выдаўся нам даволі сумны.

Прыяжджаем на станцыю Вікторыя ў Лёндан. Тут здалёк ужо ўгледзілі чорны капялюш і характэрную бараду а. архімандрыта Льва, які прыехаў нас спаткаць.

Падземка. Станцыі закопчаныя ды безьліч шын і пэронаў. Праўда, некаторыя станцыі маюць арыгінальны выгляд, але гэта ўжо архаізмы, ня тое што мадэрныя авіяпорты.

Колькі разоў чулася, што лёндынская падземка лепшая за парыскае мэтро. Я з гэтым ня згодны. І вагонікі меншыя і геаграфія не такая простая як мэтро. У Лёндане карыстацца падземкай шмат цяжэй. Тоесамае з грашыма. Гэта сьведчыць, што ўпрашчэньне жыцьця ў французаў пасунутае далей. Але ёсьць перавага і ў ангельцаў, прыкладам, утрыманьне вуліц, тратуараў, чысьціні гораду, дысцыпліны насельніцтва. Калі ў Парыжы і ў прадмесьцях вы напаткаеце вуліцы, дзе тратуары парасьлі быльлём ці падарожнікам, дык у Лёндане нават далейшыя прадмесьці ў парадку, домікі чыстыя, памаляваныя. Словам, англічане ўступаюць французам у яснасьці думкі і ар'ентацыі, а французы у утрыманьні парадку. Чым і тлумачыцца паступовасьць французаў і кансэрватызм англічан.

*

Гаварыць аб музеях не давядзецца шмат, бо па першае мы ня мелі часу ўсіх адведаць — на гэта трэ было-б месяц, а то і больш. Мы-ж зьведалі колькі важнейшых: нацыянальную галерэю — вельмі багатую экспанатамі сярэднявечнага малярства, асабліва гатыцкай школы; далей давялося бачыць шмат абразоў існаваньне якіх і не ўяўлялася. Пры-

кладам Рубэнс — паводле таго што бачыцца ў Парыжы — гэта зусім ня той Рубэнс! Побач Галярэі ёсьць выстаўка партрэтаў, дзе тысячы іх рэпрэзэнтуюць ангельскую школу гэтага жанру.

Брітіш Музэум вельмі багаты экспанатамі з розных пэрыядаў людзкой цывілізацыі, але носіцца ўражаньне, што крыху пераладаваны. Больш цікава прадстаўлены Музэй Вікторыі і Альбэрта: большая разнаякасьць хоць менш мэтадычнасьці. Усе музэі маюць свае адумысловая будынкі, што дае лепшыя ўмовы для экспанатаў, аднак і тут адчуваем недахоп таей лёгкасьці, якую мы прывыклі наглядаць у Парыжы.

*

Сам горад багаты, вялікі, добра ўладжаны. Калі шукаць падабенства з іншымі гарадамі мне ведамымі, то хіба Капэнгага мае найбольш шансаў звацца малым Лёнданам, хоць данчыкі выбралі для сваей сталіцы назову малы Парыж. Аднак даньчыкі пасунулі пэдантызм чысьціні да большае дасканаласьці.

Калісь, у 1946 нам даводзілася шпацыраваць у лодцы на пратоках Капэнгагскага Порта, а цяпер даканаць падобнага падарожжа па Тамізе. Капэнгага мне выдалася прыгажейшай.

Не хапае таксама Лёндану гэтакіх вуліц як Шамп-Элізээ ў Парыжы, не гаворачы аб цудоўных дазнаньнях падорожжа лодкаю па Сэкване.

Людзі тое самае. Няма тут тых ясных створаных для ўсьмешкі твараў, або ўсьмешкаю сфармаваных. Скуль такая розьніца. — Мне здаецца, што вінаватая пратэстанская рэлігія! Бязупыннае ўбіваньне людзям у галовы, што яны недасканалыя, быццам нягодныя Божае ласкі і вечнага збаўленьня — гэта робіць іх нешчасьлівымі, што і адбіваецца на іх тварах. Твар, як ведама, ёсьць шыльдам душы.

Калі ходзіць аб памятнікі старажытнасьці і будоўлі то, бязумоўна ўражаньне выклікаюць Вэстмінстэр Голь, Вэстмінстэр Аббэй. Абодвы ў характэрным ангельскім готыку, лёгкім і кружаўным. Тоесамае і ў сярэдзіне Аббэй. Але надмер пазалоты крыху паменшае маестат гэтае архітэктуры. Палац Бункінгам, каралеўская рэзыдэнцыя, гэта клясычны прыклад бароку, прыгожы і лёгкі. Вестмінстэрская катэдра — каталіцкая ў адрожненьні ад Аббэй — англіканскага, гэта бізантыйска-раманскі стыль, праўда, недакончаны ў сярэдзіне, але звонку добра сфармаваны. Цудоўныя капліцы цалкам выкладаныя мазаікай і... веліч. Тут мы спакусіліся паехаць на вежу катэдры, скуль адчыняецца панарама на ўвесь Лёндан! Зробленыя здымкі замацуюць гэтыя памятныя ўспаміны. Бязумоўна шмат іншых аб'ектаў трэ было-б адцеміць, але гэтая монографія і так расцягнулася. Успомню яшчэ Лёндон Брідж і Таўэр оф Лёндан, які захапляюць сваею старавечнасьцю.

*

А цяпер найважнейшае гэта людзі, нашыя людзі — Беларусы.

Бязумоўна найважнейшым беларускім асяродкам у Лёндане ёсьць Дом Марыянаў. Ня буду пісаць аб гісторыі гэтага асяродка, бо і сам ня меў часу аб гэтым распытываць. Думаю, самі Айцы аб гэтым напішуць, бо — дзякаваць Богу — маюць дзе пісаць. А напісаць трэба абавязкова. Я-ж асабіста, калі пазнаёміўся павярхоўна з тым, што тут ёсьць, зрабіў першы закід Айцом Марыянам, што ўсё хаваюць перад беларускай публічнай апініяй, праз што прычыняюць вялікую шкоду нашай эміграцыі і сваей уласнай рэпутацыі.

Душою асяродка Марыянаў зьяўляецца Уладыка Чэслаў Сіповіч. Гэта ён перавёз ідэю беларускага асяродка ў Лёндан аж із Друі і ня спыніўся, пакуль ідэя не набрала ізноў рэальных формаў. — Сяньня Асяродак Айцоў Марыянаў мае свае уласныя тры дамы і значную плошчу, можа з гэктар агародаў-паркаў. Значыць, не малая вартасьць, калі глядзець в чыста матар'яльнага пункту. Але нявымерную вартасьць мае асяродак, калі глядзець з маральнага пункту. У галоўным будынку, які ёсьць сялібай Айцоў Марыянаў месьціцца апрача ўласьніка, капліца хоць невялічкая, але сымпатычная і ўтрыманая ў традыцыйным беларускім-бізантыйскім стылі. Далей пачарзе гэта бібліятэка сабраная Ўладыкам Чэславам і а. Архімандрытам Львом. Пасьля маленькі музэй, дзе можна аглядаць ужо сяньня колькі характэрных экспанатаў зь беларускага фальклёру: эгзэмпляр Слуцкіх паясоў, ручнікі, дзяружкі, распяцьце Хрыста, якое трапіла ў музэй даволі далёкім шляхам. Яно было вывезена нейкім немцам зь Беларусі у часе вайны. Падчас высьвячэньня Ўладыкі Чэслава ў Мюнхэне, гэты немец, даведаўшыся, што пасьвячаюць беларускага біскупа, перадаў скульптуру Ўладыцы як падарак і рэліквію зь Беларусі. Ёсьць мітра а. Архімандрыты Андрея Цікоты, які быў ліквідаваны бальшавікамі. Мітра — вялікай дарогаю — праз Аўстралію дайшла да Лёндану з Манджурыі.

Месьціцца ў Доме Рэдакцыя «Божым Шляхам», з ейным Рэдактарам — паэтам, пісьменнікам, мучанікам Сібіру — а. Язэпам Гэрмановічам на чале. Урэшце вядзе гаспадарку, г. зн. кухню і гарод брат Ст. М. Баговіч, ён-жа псальміст і сьпявак.

У іншых двух дамох месьціцца Інтэрнат для хлапцоў імяні Сьв. Кірылы Тураўскага, — кірue а. Ал. Надсон. Апошнім годам было 13 хлапцоў, якія ходзяць у ангельскія школы, а тут жывуць і вучацца беларускіх прадметаў і рэлігійнага выхаваньня.

У сьвятліцы Інтэрнату ёсьць пачаткі пад галерэю беларускіх мастакоў: абраз нашага мастака з Амэрыкі Міірановіча «Збор Сена», далей парыскага мастака скульптара М. Наумовіча «Пагоня», выкананая мазаікай на плыце. — Яшчэ образ В. Жаўняровіча з Парыжа. Гэтага астатняга ёсьць у асяродку шмат абразоў: нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо ён ёсьць школьным сябрам Ўладыкі Чэслава і вучням а. Гэрмановіча. — Трэба надмяніць, што ў Марыянскім Доме ёсьць некалька прац выкананых графічнаю тэхнікай Івонкі Шыманец-Сурвіліхі: Мірскі Замак, Нізкі Замак у Вільні, Сынкавіцкая Царква і інш.

Калі да гэтага дадаць г. зв. «Пчаліную Хатку», дзе Архім. Леў гаспадарыць як ягоны дзед на Беларусі, дык пабачым, што Марыян Гоўзэ із сваімі анэксамі — гэта Беларусь у мініятуры. Калі дадамо ўсіх лякатараў, дык асяродак рэпрэзэнтуе Беларусь ня толькі ў культуральным, але і этнічным нэнсе, бо тут прадстаўлены нашыя белар. правінцыі ад Наддзьвіньня (Ўладыка Ч. С.) да Ашмяншчыны (Гэрмановіч), да Браслаўшчыны (а. Ф. Журня), Меншчыны (а. Надсон), Наваградчыны (а. Гарошка), Палесься (Сп-ва Міхалюкі). Сп-ня Міхалюк працуе ў Інтэрнаце за гаспадыню, а іх 3 хлапцы вучацца тут-жа... Далучаем — Дыякан Р. Тамушанскі па дзядох із Сувальшчыны і бр. Баговіч з пад. м. Мёраў.

*

Але Марыянскі Дом працуе і далей, за межамі Беларусі, бо Ўладыка Чэслаў зьяўляецца Генэралам Закону Марыянаў і гэтакым чынам ёсьць злучальнікам зь іншымі народамі.

Зь іншых беларусаў, якіх нам давялося пазнаць або спаткаць — гэта Сп-ня Марцінкевіч із сваім мужам, сп. Навара з сымпатычнай жонкаю і двумесячным сынком, Сп. Аніська — стары Нашанівец — усе зь Беларускага Дому. Зь іншых асобаў пазналі Сп-ню М., украінку з паходженьня, але валодае дасканала беларускай літэрацкай мовай (угасьціла нас чаем за што тут дзякуем!). Спатыкалі Сп. Бутрымовіча, а таксама Сп. Савіцкага із сымпатычнымі дзеткамі. — Спатыкаліся із Сп. Лашуком, які нас адвёў да музэю і частаваў у сябе.

Гэтулькі прыгодаў і спатканьняў, як на адзін тыдзень — ня мала!

Гэтая візыта, асабліва тое, што давялося дасьведчыць у гасьцінных парогах Айцоў Марыянаў, дадалі нам бадзёрасьці да далейшае працы і ўмацавалі нашую веру ў трываласьць беларускае нацыянальнае справы.

Дык гэтым шляхам складаем АА. Марыянам з Ўл. Ч. Сіповічам шчырую падзяку за гасьціннасьць, а перадусім за падмацаваньне нашае веры у лепшую будучыню Нашага Народу.

*Эвэліна і Уладзімір Ш-цы*

# Весткі з царкоўнага жыцьця

ВАТЫКАН: Японія і Ватыкан дагаварыліся падняць сваё прадстаўніцтва да рангі 1-ае клясы: прадстаўнік Ватыкану будзе тытулавацца нунцыям, а прадстаўнік Японіі — амбасадарам.

✳

ПАПА ПАВАЛ VI прыняў запрашаньне кардынала Конха наведаць міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс, які адбудзецца ў гор. Богота ў Калумбіі ў 1968 годзе. Пры гэтай аказіі Папа наведае такжа іншыя краі Лацінскае Амэрыкі. (Увага: Назовай «Лацінскае Амэрыкі» абняты ўсе краі ад Мэксыкі на паўдзён, дзе гавораць па гішпанску і партугальску. Гэтую апошнюю мову мае толькі Бразылія і Гаіті).

30-га чэрвеня г. г. адбылася ўрачыстая цэлебра ў базыліцы сьв. Пятра — у дзень 3-яе гадавіны каранацыі Паўла VI. Пасьля поўдня Папа пасьвяціў у Ватыкане новыя інсталяцыі радыё.

✳

РЫМ: Адбыўся Кангрэс Італьянскіх біскупаў (300). Канфэрэнцыя біскупаў Італіі мае адцяжыць Ватыкан, займаючыся больш справамі каталіцкае Італіі, якая патрабуе значнейшае духовае апекі. Тымчасам Ватыкан заняты агульнымі справамі ўсяе Каталіцкае Царквы.

Прэзэс аўстрыяцкае Карытас паведаміў Ватыкан, што каталікі Аўстрыі сабралі на галадаючых у Індыі суму раўнаважную 5-ці мільярдаў ліраў.

✳

ПАВАЛ VI вядзе бязупынную акцыю за м і р : праўда, ягоная акцыя дасюль ня мела поўных паводзінаў. Сьвет надмерна заняты дачаснымі справамі і бізнэсам: не мае ні ахвоты, ні часу слухаць духоўных настаўнікаў — аж некаторыя каталікі перасьцярагаюць Ватыкан, каб ня выстаўляў сябе на дарэмную канфузію... Аднак справа міру так паважная, а небасьпека сусьветнага канфлікту такая вялізная, што Папа не зважае на непаводзіны і ўсьцяж абвяшчае «мір для ўсяго сьвету». Яго акцыя ёсьць «дыпляматыяй Эвангельля», дык зьвертаецца да прыяцеляў і да найгоршых непрыяцеляў, якія ня хочуць слухаць, бо і між імі ёсьць нямала людзей «добрае волі».

✳

РЫМ: Тут адбылася Канфэрэнцыя дэлегатаў з 80 краёў у справах зямельнае рэформы. Яны былі на аўдыенцыі ў Папы Паўла VI. У прамове Папа казаў, што рэформай зямлі і гаспадаркі цікавіцца і ўдзельнічае таксама і Катал. Царква, бо гэтая справа датычыць наагул да ўсяго сьвету, яго памысьнасьці, ратунку ад голаду, справядлівага падзелу зямлі...

✳

КАСТЭЛЬ ГАНДОЛЬФО: Гэта летняя рэзыдэнцыя Папы і сюды прыбываюць пілігрымы з усяго сьвету, асабліва каталікі, хочучы атрымаць багаславенства: і ўжо існуе такі звычай, каб пабачыць Папу, (каб пасьля ня крытыкавалі, што «быў у Рыме і Папы не бачыў!»).

У прамове да пэлігрымаў Папа аднойчы гаварыў аб Царкве «пакорнай» і аб «Царкве — пакутніцы». Падчас Сабору гэтыя назвы Царквы былі лепш прызнаныя, чым даўнейшая назва «Царквы — ваяўніцы». Бо Царква ёсьць «Божы Народ», маючы сваіх Пастыраў і Царква не належыць да Пастыраў, але належыць да Самога Хрыста. А Пастыры належаць да Божага Народу, бо і яны самі — «авечкі Божага Стада». Як людзі, Пастыры маюць у сабе шмат добрага, але і шмат слабасьцяў і грахоў. Значыць, трэба нам усім пакутаваць і ўніжацца перад Богам, перад Божымі Сьвятымі і перад цэлым сьветам.

✳

ВАТЫКАН: Газэта «Оссэрваторэ Романо» атрымала ад Праваслаўнага Патрыярха Атэнагора І-га 2000 даляраў на галодных, як асабісты дарунак Патрыярха. Усяго сабрана 4 мільярды 638 мільёнаў ліраў.

✳

ШВАЙЦАРЫЯ: Адбылася паважная ўрачыстасьць — адчыненьня Праваслаўнага Цэнтру: прыбылі такжа прадстаўнікі Каталіцкае Царквы і Пратэстанскае.

АРГЕНТЫНА: У Буэнос Айрэс гарадзкая ўправа ахвяравала звыш 100 гэктараў грунту на пабудову новага гарадка для каталіцкага унівэрсытэту, у якім мае быць навачасны лекарскі інстытут і шпіталь. Унівэрсытэт вядуць Езуіты і ўжо цяпер лічыць звыш 10-ці тысяч студэнтаў.

*

ФІНЛЯНДЫЯ павысіла сваё прадстаўніцтва пры Ватыкане да рангі амбасады. Першы амбасадар даручыў свае вярыцельныя граматы Паўлу VI-му.

*

ГОНКОНГ: Тут адчынена 205 каталіцкіх школаў — сярэдніх і вышэйшых, у якіх вучыцца 150 тысяч моладзі.

*

АНГЛІЯ і ВАЛІЯ: Тут было дасюль каля 3500 касьцёлаў. У наступных 2—3 дзесяткаў гадоў каталікі праектуюць збудаваць 1000 новых святыняў і каля 300 капліцаў.

*

ФІЛІППІНЫ: Тут пачала працаваць каталіцкая радыё-станцыя «Вэрытас» у 17-ці мовах. Сіла станцыі вельмі вялікая: займае 3-яе месца пасьля пэкінскай і амэрыканскай.

*

ТАНЗАНІЯ: На версе гары Кіліманджаро, найвышэйшай у Афрыцы, адправіў сьв. Імшу місіянэр а. Келлі (6100 мэтраў). Было прысутных на набажэнстве 8 чалавек. У Танзаніі больш як 2 мільёны каталікоў.

*

ВЭНЭЦЫЯ: Адбылася паважная ўрачыстасьць звароту рэліквіяў-мошчаў, галавы сьв. апостала Тытуса, вучня сьв. Паўла. Прыбыў, каб прыняць мошчы, мітрапаліт Ірэнэй з вострава Крыта з дэлегацыяй. Галава сьв. Тытуса, вельмі цэнная рэліквія, прабывала ў Вэнэцыі ад 13-га стагодзьдзя, а цяпер — з дазволу Папы — вярнулася ў Крыт, дзе цэркву заснаваў уласна сьв. Тытус. Гэта ўжо — пасьля мошчаў сьв. апостала Андрэя і сьв. Саббы — ёсьць трэці выпадак павароту мошчаў Праваслаўнай Царкве. Гэтак пачынаецца так пажаданы паварот усяго хрысьціянства да еднасьці!

*

АА. ЕЗУІТЫ вядуць на ўсім сьвеце 69 каталіцкіх унівэрсытэтаў для сьвецкіх студэнтаў, якіх лік даходзіць да 200 тысяч. Адным з найбольш важных лічыцца ўнівэрсытэт у Токіо, назыв. «Софія» з 6 тыс. студэнтамі. А унів. у Нью-Ёрку «Фордгам» мае 10 тысяч і абходзіў сёлета 120 гадоў існаваньня. У 1904 г. меў толькі 420 ст.

*

ЭСПЭРАНТО: Папа Павал VI прызнаў эспэранто за адну з моваў літургічных. У гэтай міжнароднай мове падчас Літургіі можна чытаць Лекцыю і Эвангельле, ужываць яе ў літургічных выдавецтвах і адмаўляць малітвы.

*

ПАРЫЖ: Адбыўся тут 29-ты Кангрэс Уніі Жаночых Манастыроў Францыі. Было на Кангрэсе 3500 дэлегатак манахінь (ад 65-ці тысяч усіх законніцаў). Большая іх частка працуе ў санітарнай службе і ў выхаваўстве, ў розных прытулках, сірацінцах, у шпіталях для нявылечных хворых і інш.

*

АНГЛІЯ: Брытыйская Рада Англіканскае Царквы ўстанавіла Камісію для апрацаваньня адносінаў з Каталіцкаю Царквою: абедзьве Царквы праблему дыялёгу і поўнае згоды вельмі бяруць да сэрца і праца ў гэтым напрамку разьвіваецца ўсьцяж.

*

ЗША: Лік каталікоў тут у гэтым годзе выносіць 46 мільёнаў 246 тысяч людзей, за год прыбыло 605 тысяч.

*

ІТАЛІЯ: Распачаўся царкоўны працэс, каб прызнаць Папу Яна XXIII багаслаўлёным (блажэнным). Гэтага дамагаецца ад Ватыкану цэлы сьвет, нават і некаталікі: такое вялікае ўражаньне зрабіў на ўсіх Сьв. Памяці Ян XXIII, што ня могуць яго забыцца. Пры яго гробе ў базыліцы Сьв. Пятра маса молячыхся, ставячых сьвечкі і прыносячых кветкі. Шмат хто сьведчыць, што дазналі ў сваіх патрэбах ягонае помачы з таго сьвету.

*

ГАЛЯНДЫЯ: У Галяндыі 4 з палавінаю мільёнаў каталікоў, 15 тысяч сьвятароў і з гэтых 5 тысяч прабывае ў розных краёх сьвету на місіях. Каталіцкая Царква мае тут сваё радыё і тэлэвізію і свой унівэрсытэт у Ніймвэген.

*

ГІШПАНІЯ: Біскупы праводзяць новыя спосабы, каб лепш прыгатаваць кандыдатаў да сьвятарства: пасылаюць клерыкаў перад сьвячаньнем на службу ў шпіталі або ў фабрыкі на працу. Маладыя студэнты прыглядаюцца да жыцьця: працуюць як простыя работнікі, зарабляючы на кавалак хлеба, каб пасьля ў сьвятарстве ня ўважалі сябе за паноў, якім людзі маюць служыць, але каб самі ўмелі служыць людзям да іх збаўленьня.

*

КІТАЙ: У непаводзінах урад шукае вінаватых між сваімі (ідуць жорсткія чысткі) і між чужымі: тут палі ахвяраю каталіцкія манахіні ў Пэкіне. Дзеіць так наз. «чырвоная гвардыя» — гэта абаронцы, як самі сябе хваляць, «народнае культуры», якія сілаю праводзяць паўсюдную чыстку і культ асобы Мао-Тсэ-Тунга. Дасюль усе вонкавыя праявы рэлігіі вынішчаны ў ва ўсім Кітаі. Цяпер зваліўся пагром на апошнюю школу

і кляштар у Пэкіне: патурбаваныя законніцы, зьневажаны манастыр і сьвятыня, панішчаныя абразы і г. д. Дасюль у школе вучыліся толькі дзеці заграннічных дыпляматаў, але і гэта было чамусьці камуністам шкоднае і недапушчальнае, а бедным манахіням закідваецца «заграннічны шпіянаж».

*

БЕЛАРУСЬ: Ад прыехаўшых людзей даведваемся, што атэісты хваляцца: «Каталіцкую Царкву зьліквідуем аканчальна! Старыя сьвятары памруць, а новых ніякіх не дапусьцім — ані з заграніцы, ані пазволім гадаваць у духоўных сэмінарыях . . . » І, сапраўды, у Беларусі няма ніводнае духоўнае сэмінарыі, калі ў Летуве і Латвіі, хоць у ліку надта агранічаным, аднак дапускаюцца новыя кандыдаты да духавенства. Не гаворачы ўжо аб Польшчы, дзе ў сэмінарыях цяпер больш кандыдатаў, чым было перад вайною.

Дый трэба адзначыць, што ў Беларусі ксяндзы, якія асталіся ў савецкіх граніцах, вядуць духоўную працу старым манерам, значыць, *па польску!* Аж дзеці і юнакі дзівяцца: «Па якому гэта яны гамоняць?» Апрача некалькі вынятковых ксяндзоў, што важацца гаварыць казаньні па беларуску, іншыя цешацца тым, што могуць праз касьцёл весьці польскую «лінію» між беларусамі. Ці-ж яны ўважаюць, што беларуская мова «сабачая», як яе празывалі іхнія шавіністы перад вайною?

*

БРАЗЫЛІЯ: У Паўночна-Ўсходняй Бразыліі палажэньне работнікаў вельмі цяжкое: няма абасьпячэньня працы, дык гаспадары аплачваюць работнікаў так марна, што пагражае ім голад і галеча! І работніцкія арганізацыі ня маюць правоў у дзяржаве, а паліцыя ўціскае народ паводле густу гаспадароў. Калі хто падыймае голас у абароне пакрыўджаных, таму зара закідваюць, што ён агітатар, бунтаўшчык, камуніст і інш.

Тады паднялі свой моцны голас каталіцкія *біскупы,* асабліва горача бароніць беднату архібіскуп Дом Гэльдэр Камара з гор. Рэсіфэ. Ён з групаю суседніх біскупаў выдаў публічную адозву і пратэст, але паліцыя забараніла друкаваць адозву і канфіскавала надрукаваныя. І пускаюць урадовыя абвесткі, што гэтыя біскупы «падыймаюць бунт», а Камару пагражаюць арыштаваць. Праўда, сам дыктатар Кастэльлё Бранко спаткаўся з біскупам Камарай і звольніў зь месца начальніка паліцыі, а біскупу загадаў замоўкнуць. Такія паўмеры мала памогуць, калі дыктатар не правядзе належных рэформаў у дзяржаве.

*

КАНАДА — МОНТРЭАЛЬ: Ужо 40 гадоў вядзецца будова касьцёла ў чэсьць Сьв. Язэпа і мае быць хутка закончана. Гэта будзе найбольшая сьвятыня ў ва ўсім сьвеце. І ахвяры на яе ідуць з цэлага сьвету.

*

## АБВЕСТКА

| | |
|---|---|
| Priesterseminar | Marian House |
| 624 Koenigstein/Taunus | Holden Avenue |
| West Germany | London, N. 12 |

**Дарагія Суродзічы!**

**Зь вялікай радасьцю паведамляю Вас, што дня 3-га сьнежня, 1966 году адбудзецца маё сьвятарскае пасьвячаньне ў царкве Калегіі Кенігштайну ў Нямеччыне.**

**Сьвячаньне атрымаю з рук Ўладыкі Чэслава Сіповіча, Візытатара Беларусаў на чужыне.**

**Мая першая ўрачыстая Літургія адбудзецца ў Мар'ян Гаўз у Лёндане, дня 18-га сьнежня, 1966 г.**

**Запрашаючы на гэтую ўрачыстасьць, прашу Вашых сьвятых малітваў у лучнасьці са мною ў гэтым шчасьлівым для мяне дню.**

**а. Дыякан Рабэрт Тамушанскі**

СУСЬВЕТНАЯ БІБЛІЙНАЯ УНІЯ аб'явіла, што ў 1965 г. разыйшлося па ўсім сьвеце 77 мільёнаў Бібліі. 26 мільёнаў — у Злучаных Штатах Амэрыкі, 7 мільёнаў — у Бразыліі, 4 міл. 200 тысяч у Японіі, хоць там ёсьць толькі 800 тысяч хрысьціянаў.

*

ЭКВАТАР: У гэтай рэспубліцы (Паўдз. Амэрыка) каталіцкія біскупы ахвяравалі з касьцельных грунтаў 20 тысяч гэктараў зямлі для паўтары тысячы бедных сем'яў.

*

ПОРТОРЫКО: У Лацінскай Амэрыцы заложаны спэцыяльныя 2-хлетнія курсы для прыгатаваньня кандыдатаў на дыяканаў. Ведама, што Сабор згадзіўся прыймаць на дыяканаў людзей жанатых. Запісалася ўжо 1500 кандыдатаў. Пасьля сьвячаньня яны будуць рассылацца ў краі Паўдзённае і Сярэдняе Амэрыкі, дзе асаблівы брак сьвятароў.

*

МАСКВА: Нядаўна выйшлі з друку ў значнай колькасьці Біблійныя апавяданьні, як гістарычныя легенды». Хоць камуністы гэта выдалі з сваею крытыкай, аднак — з браку поўнае Бібліі — людзі спрагненыя Божага слова зара ўсё раскупілі.

*

БРАЗЫЛІЯ: У дыэцэзіі САО ПАЎЛЕ ёсьць шмат японцаў-эміграньтаў, зь якіх нямала ўжо каталікоў. Кардынал дэ Россі загадаў арганізаваць для іх асобныя парахвіі і весьці больш ажыўленае апостальства.

## НОВАЯ ЭНЦЫКЛІКА ПАПЫ ПАЎЛА VI

Дня 19. 9. Папа зьвяртаецца да цэлага сьвету з Заклікам справядлівага міру.

Сьвяты Айцец вызначае дзень 4-га кастрычніка з актавай — гэта ёсьць 8-мі днямі набажэнства, якое працягнецца на цэлы месяц Кастрычнік, калі ў лацінскім касьцеле адпраўляецца ражанец у чэсьць Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, разважаючы тайніцы з жыцьця Ісуса Хрыста і Багародзіцы.

Папа асьцерагае, што мы загрожаны катастрофаю, калі «вядзецца крывавая і заўзятая вайна, асабліва ў усходняй Азіі, таму мы мусім дзеіць яшчэ больш інтэнсыўна ў справе супакою, колькі маемо сілы».

І ўсё прычыняецца да вайны: перагонка ў збраеньні, цяга — захапіць чужое, пыха людзкая, каб падняцца звыш другіх, паніжэньне слабейшых, сьпіскі і рэвалюцыі і інш.

А ёсьць масы людзей добрай і найлепшае волі, дык трэба зыходзіцца разам, тварыць мудрую раду, каб ратаваць сьвет ад непамерных цярпеньняў, ад голаду, агня і вайны і ад загубы. Дык Папа заклікае ў Імя Божае «радзіць раду» і тварыць мір у сьвеце.

Заклікае да міру абапёртага на справядлівасьці і свабодзе — адзінак, грамадзтваў, народаў і дзяржаваў.

Заклікае, каб Біскупы самі праводзілі асабіста публічнымі малітвамі і набажэнствамі ў гэтым месяцы кастрычніку, просячы помачы, апекі і малітваў Божае Маці Марыі. І каб настала поўная свабода рэлігіі ўва ўсіх краёх сьвету!

Дзень 4-га кастрычніка — гэта ёсьць гадавіна дня, калі Павал VI даканаў візыты ў Амэрыцы на паседжаньні Злучаных Народаў і заклікаў цэлы сьвет да міру.

## ЯК ПЕРАКЛАДАЦЬ ЛІТУРГІЧНЫЯ ТЭКСТЫ?

У Рыме адбыўся спэцыяльны кангрэс, пасьвячаны справам перакладу сьвятых тэкстаў: часам нават дробны тэкст выклікае шмат труднасьцяў, як напрыклад пералажыць «Ітэ Місса ест»? Нават у найбліжэйшых да лаціны мовах нельга было знайсьці трапнага і кароткага высказу, які быў-бы найбліжэйшы лацінскаму.

А ў новых мовах, нявырабляных, як афрыканскія, у якіх бракуе глыбейшых духовых паняцьцяў, проста немагчыма аддаць зьмест прывычных нам малітваў і Св. Эвангельля. А літургія мае свае асаблівыя тэксты. А ў Афрыцы існуюць мовы, у якіх пераважае дзеяслоў, а назоўнікаў блізу няма зусім! Таксама ў дзеякіх народаў няма цалкам такіх рэчаў, аб якіх гаворыцца ў сьвятым Пісьме. Напрыклад, кітайцы, японцы ня ведаюць, што такое хлеб і інш. І будова сказаў у кажнага народу свая, дык нельга перакласьці тэксту даслоўна, а магчыма і трэба выражаць прыблізна ці іншамоўна.

БІБЛІЯ дагэтуль пераложана — цалкам ці часткова — на 1250 розных моваў сьвету.

ЛІТУРГІЯ: у каталіцкай Царкве маецца дагэтуль дазвол адпраўляць на 205-ці мовах сьвету, а з гэтых у Эўропе дазволены 29 моваў.

## КУРС ЛЕКЦЫЯЎ З БЕЛАРУСАВЕДЫ

Ангельска-Беларускае Таварыства ладзіць у Лёндане ў канцы гэтага году курс лекцыяў з беларусаведы на ангельскай мове. Курс адбудзецца ў Францускім Інстытуце і будзе складацца з 6-ці лекцыяў. Вось парадак лекцыяў:

*Аўторак 1-га лістапада:* «Беларуская літаратура XV-га і XVI-га стагодзьдзяў і яе сувязі з Захадам». Дакладчык а. А. Надсон.

*Аўторак 8-га лістапада:* «Беларускія паэты і пісьменьнікі XIX-га стагодзьдзя». Дакладчык А. Б. МкМільлін.

*Панядзелак 14-га лістапада:* «Працы акадэміка Карскага ў галіне беларускай філялёгіі». Дакладчык А. Б. МкМільлін.

*Пятніца 25-га лістапада:* «Наша Ніва — яе роля ў беларускім нацыянальным культурным адраджэньні». Дакладчык а. А. Надсон.

*Панядзелак 5-га сьнежня:* «Гравюры Пранцішка Скарыны» Дакладчык Г. Пікарда.

*Панядзелак 12-га сьнежня:* «Беларуская літургічная сярэднявяковая музыка». Дакладчык Г Пікарда.

Усе лекцыі пачынаюцца ў 6.15 вечарам. Уступ свабодны для ўсіх. Адрас Францускага Інстытуту наступны. Institut Français du Royaume-Uni, 15 Queensberry Place, London, S. W. 7.

Найбліжэйшая станцыя падземнай чыгункі: South Kensington.

## З беларускае прэсы

СЯЎБІТ: Часапіс Каталіцка-Грамадзкі. 1966, верасень-кастрычнік, Нью Ёрк, № 52 (г. 9). Зьмест: Беларусы ў сьвятле праўды, Новае Іміграцыйнае Права, Аб Вітамінах і 4 вершы.

БЕЛАРУС: Часапіс Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Год XVII, № 111-112, Ліпень-Жнівень, 1966, Нью Ёрк — Торонто. «Пара пачынаць» — артыкул зь ініцыятывай, якую моцна падтрымліваем. Мяноўна: У сакавіку 1968 г. 50 год абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі — 25-га сакавіка 1918 г. Трэба выдаць кнігу «салідную працу калектыўнага аўтарства». Значыць, вялікая пара прыступаць да арганізацыі, «каб кніга выйшла з друку найпазьней за год»! Кніга павінна быць — дзеля інфармацыі заграніцы — «на адпаведным навуковым, палітычным і тэхнічным узроўні» і зрэдагавана ў бездаганнай ангельскай мове.

*

ПРЫКАЗКІ ЛАГОЙШЧЫНЫ: Запісаў Адам Варлыга. Нью Ёрк — 1966 — Мюнхэн. Рэдакцыя дзякуе за прысланьне! — Вельмі карысная, цікавая і салідная кніжка: зборнік прыказак з кароткім выясьненьнем, на чым абапёртыя і як іх ужываць. Мае таксама і навуковае значэньне і вартасьць. Аўтар заслужыў на ўдзячнасьць сучасных беларусаў і будучых патомкаў.

## З беларускага жыцьця

### АД'ЕЗД УЛАДЫКІ ЧАСЛАВА Ў РЫМ

У пятніцу 5-га жніўня, пасьля амаль двухмесячнага побыту ў Англіі, Уладыка Часлаў Сіповіч адляцеў самалётам у Рым, куды яго паклікалі ягоныя абавязкі, як генеральнага ігумена закону айцоў Марыянаў.

Уладыка Часлаў будзе ў Рыме да канца лістапада, пасьля чаго наведае Нямеччыну. У суботу 3-га сьнежня ў Кэнігштайне ён мае даць сьвятарскія сьвячаньні а. дыякану Рабэрту Тамушанскаму.

### ГАДАВАЯ ЗБОРКА ЛЁНДАНСКАГА АДДЗЕЛУ ЗБВБ

У нядзелю 28-га жніўня ў Беларускім Доме ў Лёндане адбылася гадавая зборка Лёнданскага Аддзелу Згуртаваньня Беларусоў у Вялікай Брытаніі. На зборцы была выбраная новая ўправа ў складзе: Сп. Я. Міхалюк — старшыня, сп. Я. Сяўковіч — сакратар і сп. А. Шацько — скарбнік.

Лёнданскі аддзел ЗБВБ праводзіць добрую працу ў галіне падтрымоўваньня нацыянальнага жыцьця сярод беларусаў, якія жывуць у сталіцы Англіі. Трэба спадзявацца, што пад кіраўніцтвам новай управы, ён даб'ецца яшчэ лепшых посьпехаў у сваей дзейнасьці.

### ПАЧАТАК НАВУЧАЛЬНАГА ГОДУ Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА

У нядзелю 11-га верасьня пачаўся новы, — ужо шосты — навучальны год у Школе сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане. Гэты новы пэрыяд працы Школа пачала ня толькі з павялічаным лікам вучняў, але таксама з пэўнымі навучальнымі посьпехамі. Пасьля пяці гадоў існаваньня Школа можа ўжо пахваліцца вучнямі, якія здалі матуру з беларускай мовою, як адным з прадметаў. (У Англіі беларуская мова ёсьць прызнаная, як адна з сучасных моваў, якую кандыдаты могуць сабе выбраць на матуру).

Айцец А. Надсон адправіў сьв. Літургію. У казаньні ён падкрэсьліў, што мэтаю Школы ёсьць узгадаваць добрых і паўнавартасных людзей, хрысьціянаў і беларусаў. Зьвяртаючыся да вучняў, ён сказаў, што ад кожнага з іх залежыць, ці ў школе будзе панаваць добрая, сямейная атмасфэра. Дзеля гэтага кожны павінен навучыцца думаць перадусім аб добры іншых.

У панядзелак 12-га верасьня ў школе пачаліся нармальныя заняткі.

## Думкі аб сабе

Адзін з найбольшых цяжараў, якія мы носім праз жыцьцё, гэта ёсьць мы самі... «мы самі сабе звычайна найбольш перашкаджаем».

Сястра пыталсася сьв. Тамаша: «Што трэба рабіць, каб атрымаць збаўленьне?» — Адказаў ён: *«хацець»!*

Калі хочаш быць добрым, павер, што ты благі. (Эпіктэт).

Хачу навучыцца перш думаць, пасьля гаварыць. (Dr. Töth).

Што такое самалюбства? — Гэта ёсьць скрыўленая любоў сябе самога, або карыкатура любові.

Запытайся сябе: Ці жадаю супакою? ці не баюся астацца сам з сабою?

Ці ўмею агранічыць непатрэбныя гутаркі? (а. Г. Куртуа).

«Я!» — Проста непраўдападобная рэч, да чаго ёсьць здольны чалавек, калі навучыцца станоўка і вытрывала *хацець!*

Дрэмлюць у нас вялізарныя сілы. На шмат большыя, чым мы мяркуем, але закаваныя ў кайданкі. Мусіш паверыць, што захавана ў табе вялікая моц, а зараз-жа яна звольніцца з кайданоў. Дык пачынай кожную працу з думкаю: «Я цалкам асягну напэўна гэтую *мету!»* Хто ня верыць непахісна ў перамогу, таго жаданьне зьмяняецца ў марнае «хацеў-бы». — Да чаго чалавек абавязаны, усё можа споўніць.

Хто хоча вучыць людзей, або панаваць над імі, хай перш *пераможа самога сябе.* (Dr. Töth).

# ВЕРШЫ

*Вінцук Адважны*

## ГУСІ

*Даўжэзнаю галузай*
*Гнаў дзед гусей у горад на кермаш,*
*А далікатнасьці ў людзей нямаш,*
*Дык дасталося там і дужай і нядужай.*
*Барыш даўно ўжо дзеду сьніўся,*
*А за барыш ён з цэлым сьветам біўся.*

*Ня будзем дзеда мы вініць,*
*Бо чалавеку трэба жыць.*
*А гусі любяць балбатаць*
*І наракаць...*
*Як падарожніка спаткалі,*
*Яму расклалі свае жалі:*

*— Ці бачыў хто такіх гусей няшчасных?*
*Мы топчымся на ножках уласных,*
*А ён нас ганьбіць як бязхвостых,*
*Хоць мы ня з простых;*
*Бо мы з гусей тых рымскіх слаўных —*
*З тых абаронцаў старадаўных,*
*Што Рым ад Галлаў ратавалі. —*

*— А вы чаго-бы зажадалі?*
*Так падарожнік кажа. —*
*— А дзед вунь нас не важа,*
*Хоць нашы продкі... — Знаю! Я чытаў,*
*Ды толькі ведаць я жадаў,*
*Якія тут заслугі вашы? —*

*А Рым збаўлялі продкі нашы! —*
*Добра! Была ім слава за ўсё тое,*
*А вы зрабілі што такое?*
*Ну, мы нічога... — Дык і годзі!*
*Чаго-ж вы плачаце па шкодзе?*
*Вам досыць будзе чэсьці,*
*Як вас з патэльні будуць ёсьці;*
*Бо простага гуся, каб ня уцёк,*
*Кладуць скарэй ў гаршчок!*

*

*Ня будзем байкі мерыць да людзей,*
*Каб не дражніць гусей.*

*Пятрусь Броўка*

## РАЗМОВА З ДЗЬВІНОЮ

*Ты, з дзён юнацтва па сягоньня,*
*Прываражыла да сябе.*
*Дзьвіна! Дзьвіна!... І слова звоніць,*
*Як толькі ўспомніш пра цябе.*

*А хваляў колер сіні-сіні,*
*Адкуль іх вецер пазганяў...*
*Напэўна ў іх глядзеў Скарына,*
*Калі ў рад літары складаў.*

*І з тых часоў да нашых раньняў,*
*Праз даль стагодзьдзяў ідучы,*
*Калі пачуеш: «Палачанін!»,*
*Дык сэрцу радасна гучыць!*

*Ён працаўнік і адмысловы,*
*Ты глянь з Сафійскае гары —*
*Згадай былыя пабудовы,*
*Сівыя ўгледзеўшы муры.*

*Стагодзьдзямі не ведаў зморы,*
*Ён клаў умелаю рукой...*
*Ды ўсё закрэсьліў новы горад,*
*Што сёньня ўзьняўся над Дзьвіной.*

*Юнак каменны, што ў разгоне*
*Усіх прывабіў да сябе*
*Дзьвіна! Дзьвіна!... І слова звоніць,*
*Як толькі ўспомніш пра цябе.*

Ліпень. 1966 г.
(«Літаратура і Мастацтва» № 64, 9-VIII-1966).



КАЛОЖА – ГОРАДЗЕНЬ, сьвятыня з 1409 г.

*Вольга Патава*

## КАЛОЖА

*Ад сонца засланіўшыся далоняй,*
*Туманам сінім атуліўшы плечы,*
*Стаіць вякі над Нёманам Каложа,*
*Нібы жанчына у чаканьні вечным.*

*Калісьці да каханага за горад*
*Насустрач бегла верасам калючым,*
*А потым, скамянелая ад гора,*
*Ўрасла навек у нёманскія кручы.*

*За ёю — цёплыя ліўняў агароджа,*
*Над ёй — смуга падзей і далячыняў...*
*Стаіць вякі над Нёманам Каложа*
*Сівою беларускаю жанчынай.*

(«Л. і М.» 22-VII-1966. № 59)

# УВАГА!

У Выдавецтве можна купіць твор Вінцука Адважнага — паэма «Князь і лапаць». На 250-ці старонках, у літаратурнай казачнай форме, аўтар апісвае лёс сям'і эмігранта, якая паддаўшыся камуністычнай агітацыі, пастанавіла вярнуцца на падсавецкую Беларусь. У кнізе выкарыстаныя глыбокія назіраньні й перажываньні аўтара з часоў ягонага жыцьця ў савецкім зьняволеньні. Ад першых чытачоў свайго новага твору аўтар атрымаў ужо шмат вельмі прыхільных водгукаў.

Адрас Выдавецтва:

Marian House
Holden Avenue, London, N. 12
Gr. Britain
Rev. J. Hermanovič











У аўтара можна купіць в. паважную і цікавую кніжку «КІТАЙ—СІБІР—МАСКВА». Гэтая кніжка разам з кн. «Князь і Лапаць» — для чытачоў «Божым Шляхам» па зьніжанай цане — 3 даляры, або 1 фунт, або 10 фр. фр. ці 10 ням. марак

«Кітай—Сібір—Масква» пераложана і выдана ў Лёндане ў фірме «Veritas» зь беларускага на польскую мову і ў Гішпаніі перакладаецца на гішпанскую.

Тымчасам можна купіць у аўтара з польскім тэкстам у Рэдакцыі «Божым Шляхам» па зьніжанай цане 15 шыл., або 3,25 дал. Або у выдавецтве «Veritas»: 4-8, Praed Mews, London, W. 2. England. Цана 21 шыл., або 3,50 дал.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Я. Гэрмановіч

### ДЗЯЦЕЛ І КРОТ

(Байка)

*Крот і Дзяцел працавалі —*
*Той у лесе, той ў зямлі:*
*У апеку лес той бралі,*
*Дый знаёмы ня былі.*

*Вось аднойчы спазаранку*
*Віў наш Дзяцел абаранку*
*Наўкол дрэва — аж у дол. —*
*Ну, бо Дзяцел — не арол!*
*Дзюба моцная як сталь,*
*Стукаў-грукаў як каваль —*
*Тэлеграмы слаў наўкола,*
*А чырыкаў так вясёла,*
*Што аж крот, задзёршы нос,*
*Ад зямлі уверх падрос. —*

*Так спаткаліся,*
*Падзівіліся,*
*Прывіталіся,*
*Падражніліся . . .*
*Дзяцел крыкнуў: «Ах, ты кнот!*
*Як завешся ты? —*
*«Я — Крот».*
*«Ах, ты той, што як чарвяк*
*Точыш глебу, небарак?*
*Чуў я, што ты — вол рабочы —*
*Век гарэш у цёмнай ночы . . .»*

*«А ты, Дзяцел — верхалаз —*
*Пустазвон, казалі ў нас . . .»*

*«Глянь ты, Крот, на Божы сьвет!*
*Ўся прырода у вясельлі:*
*Цуд-вясна! Зямлі расьцьвет,*
*Ў лесе птушак навасельле . . .»*

*А Крот кажа: «Сьмех мне чысты!*
*Мы — браты матэр'ялісты.*
*О, зяўзята мы працуем,*
*Хоць не бачым, хоць ня чуем!*
*Я-ж не знаю пад зямлёю,*
*Што там зьверху нада мною?*
*Кажуць, што у небе дзесьці*
*Не даюць ні піць, ні есьці. —*
*Былі-б чэрві, што там неба?*
*Больш нічога не патрэба!»*

*Дзяцел крыкне: «Дурны зьвер!*
*Глянь хоць раз ты, мне павер!*
*Каб ты ўбачыў сьвет увесь,*
*Ты-бы ўміг у дол палез*
*І прывёў-бы усіх чыста*
*Тых кратоў — матэр'ялістаў.*
*Паказаў-бы ім красу. —*
*Дай — цябе я панясу!»*

*Дзяцел хоп Крата дзюбою —*
*Павалок яго з сабою!*
*Паказаў як на далоні*
*Далягляд, лясныя гоні —*
*Навакол, на права-лева,*
*На праблескі сонца ў дрэвах.*
*Кажа: «Чуеш? шум лясны! —*
*Гэта-ж музыка вясны . . .»*

*А Крот кажа: «Што мне з тога?*
*Я не бачу анічога*
*І ня чую, і не знаю*
*І да сэрца ня прыймаю.*
*Бо мы толькі ў зямлі*
*Рай чарвіны свой знайшлі. —*
*А там шчасьце, як на дзіва,*
*Скрозь рэальнае-праўдзіва».*

*Дзяцел кажа: «Справа — дрэнь!*
*Пад зямлёй заплюшчыў вочы,*
*Апусьціўся ты як пень —*
*Век ня выйдзеш з цёмнай ночы . . .»*

*

*Ёсьць і людзі, як на тое,*
*Што ў іх сэрца — залатое,*
*Ідэальнае з натуры, —*
*Зашмат толькі... лігатуры.*

---

ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.